ЦАНА 40 кап.









СЭКЦЫЯ ФЛЁРЫ ЎСЕБЕЛАРУСКАЕ ВЫСТАЎКІ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ І ПРАМЫСЛОВАСЬЦІ



# КАРОТКІ ПАКАЗАЛЬНІК ЖЫВЫХ НАСАДЖЭНЬНЯЎ

## УСЕБЕЛАРУСКАЕ ВЫСТАЎКІ С. Г. І ПРАМЫСЛОВАСЬЦІ

з больш падрабязным апісаньнем калекцый расьлін

МЕНСКАЙ ЦЭНТРАЛЬНАЙ БАЛОТНАЙ СТАНЦЫІ

СКЛАДЗЕНЫ Ў. У. АДАМАВЫМ
і М. М. ГАНЧАРЫКАМ

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК — 1930

СЭКЦЫЯ ФЛЁРЫ ЎСЕБЕЛАРУСКАЕ ВЫСТАЎКІ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ І ПРАМЫСЛОВАСЬЦІ



# КАРОТКІ ПАКАЗАЛЬНІК ЖЫВЫХ НАСАДЖЭНЬНЯЎ

УСЕБЕЛАРУСКАЕ ВЫСТАЎКІ
С.-Г. І ПРАМЫСЛОВАСЬЦІ

з больш падрабязным апісаньнем калекцый расьлін

МЕНСКАЙ ЦЭНТРАЛЬНАЙ
БАЛОТНАЙ СТАНЦЫІ

СКЛАДЗЕНЫ Ў. У. АДАМАВЫМ
і М. М. ГАНЧАРЫКАМ



БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК — 1930

Заказ № 1048. 5.000 экз. (3½ арк.). Галоўлітбел № 2799.

Друкарня Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва.

С

# УСТУП

Вывучэньне расьліннасьці БССР зьяўляецца цікавым ня толькі з навуковага боку, але ў першую чаргу гэтае вывучэньне павінна нам даць практычныя вынікі ў карысьць далейшага пасьпяховага соцыялістычнага будаўніцтва краіны.

Вывучэньне расьліннасьці як прыродна-гістарычнага фактару, дапамагае больш поўнаму ўяўленьню ўсіх тых абставін, якія складаюць прыродныя ўмовы, якія ў вялікай ступені абумоўліваюць вытворчасьць сельскае гаспадаркі.

З другога боку, сярод расьліннага сьвету ёсьць яшчэ шмат нявывучаных об'ектаў, якія могуць быць скарыстаны для патрэб народнай гаспадаркі рэспублікі як у мэтах тэхнічных, так і сельска-гаспадарчых, лекавых і інш.; з гэтага боку, выяўленьне новай расьліннай сыравіны вельмі каштоўна.

Тыя жывыя пасадкі, якія ёсьць на выстаўцы, зьяўляюцца толькі невялікім пачаткам працы ў гэтым напрамку і павінны даць гледачу-экскурсанту разуменьне аб гэтай вялікай match розастайнасьці расьлінных форм, якія можна і патрэбна вывучаць для мэт іх практычнага скарыстаньня.

Галоўная частка жывых пасадак прыродных расьлін выстаўкі складаецца з зельніка Батанічнага аддзяленьня Менскай Цэнтральнай балотнай станцыі, якая мяжуе з тэрыторыяй выстаўкі і зьяўляецца адным з экспанатаў выстаўкі.

Гэты зельнік складаецца з з інтродукцыйнага гадавальніка рознастайных расьлін як флёры БССР так і іншай, цікавых як з мэтай практычнага іх скарыстаньня, так і ў навуковых мэтах і зьмяшчаецца на двух тыпах глеб, супясчанай мінэральнай і на балотнай (тарфянай). Колькасьць паасобных расьлін гадавальніку на аднэй мінэральнай глебе дасягае 600 розных форм, а на балотнай глебе каля 200 форм, але тут прыводзіцца толькі невялікая частка, з падразьдзелам іх на групы па іх цікавасьці адносна практычнага значэньня [1]).

---

[1]) Пры апісаньні іх даецца спачатку беларуская назва, затым расійская назва расьліны, потым навуковая назва расьліннай сям'і і, нарэшце навуковая лацінская назва самое расьліны, гэта зн. род і від, да якіх даная расьліна адносіцца ў батанічнай сыстэматыцы.

Далей ідзе лічба, якая паказвае нумар вучастку гадавальніку; другая лічба адзначае нумар раду, у якім знаходзіцца градка потым, стаіць нумар градкі ў

У кніжцы падаюцца месцы пасьлядоўнай інтродукцыі данай расьліны, яе бацькаўшчына і вышыня на бацькаўшчыне, а таксама вышыня паасобніку гэтага віду, у сярэдзіне лета 1930 г. ва ўмовах разьвядзеньня Менскай балотнай станцыі.

Колекцыя Вялікалетчанскага ботанічнага саду Беларускай акадэміі навук, зьяўляе сабой частку агульнай колекцыі пярэсталісьцёвых расьлін саду, а таксама другіх цікавых расьлін. У даным паказальніку прыводзіцца толькі іх пералік з паказаньнем месца знаходжаньня іх на градках. Пярэсталісьцёвых расьлін к сучаснаму часу вывучана даволі мала і гэта колекцыя зьяўляецца багатым об'ектам для вывучэньня пярэсталісьцёвасьці, што праводзіцца Беларускай акадэміяй навук. Частка пярэсталісьцёвых об'ектаў знаходзіцца і ў папярэдняй колекцыі балотнай станцыі.

Далей у паказальніку прыводзіцца пералік дэндролёгічнай колекцыі Менскай балотнай станцыі і іншых жывых пасадак як балотнай станцыі, так і самой тэрыторыі выстаўкі. Невялічкі дадатак да паказальніка дае разуменьне аб іншых экспонатах, што ёсьць на выстаўцы па вывучэньні флёры БССР, расьліннасьці наогул і іх практычным выкарыстаньні.

---

Заўвага: Каб лепш знаходзіць расьліны, гадавальнікі Менскай балотнай станцыі дзеляцца на вучасткі. Градкі-дзялянкі на першых шасьці абазначаюцца папярочнымі лініямі з арабскай нумарацыяй (пачынаючы ад Камароўскага балота к гораду) і падоўжнымі лініямі з нумарацыяй рымскімі цыфрамі, пачынаючы ад дарогі на балотную станцыю. Там, дзе яны перакрыжоўваюцца знаходзім названыя ў сьпісу расьліны.

Скарачэньні, зьмешчаныя пасьля абазначэньня месца расьлін, паказваюць месцы паходжаньня расьлін, гісторыю іх увядзеньня на гадавальнік, г. зн. назвы ботанічных садоў, праз якія пасьлядоўна праходзілі даныя экзэмпляры да зьмяшчэньня іх на гадавальніку. Памеры вызначаюцца сярэдн. велічынямі, якіх дасягала расьліна ўлетку 1929 году (першая лічба) і рост у 1930 г. (другая лічба).

БДУ—Ботанічныя пасадкі Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту (ліквідаваны ў 1928 г.). Каля будынку Бел. Дзярж. Сельскагаспадарчага Інстытуту ў Менску (Земляробчы завулак).

---

гэтым раду. Нумэрацыя радоў пачынаецца каля ўваходу ў гадавальнік, яна ідзе ад Усходу ў напрамку да Захаду, а нумары градак ідуць ад Поўначы на Поўдзень.

Ведаючы гэта можна на гадавальніку адшукаць кожную расьліну, на адзначаным у паказальніку месцы за рэдкімі вылучэньнямі, калі мабыць расьліна загінула, альбо перасаджана для спэцыяльнай мэты на іншае месца.

Расьліны ў засевах паказаны толькі больш-менш прыблізна, так сама і на балотным гадавальніку (II), дзе месца іх, праз прычыны тэхнічныя, часьцей зьмяняюцца.



ВБС—Вялікалетчанскі ботанічны сад Беларускай акадэміі навук (які знаходзяцца каля Віцебску).

БЛУ—Ботанічны сад Ленінградскага унівэрстытэту.

Віц. бот. навук. паказ. сад—Віцебскі ботанічны навучальна-паказальны сад Віцебскага Вэтэрынарнага Інстытуту.

БДА С-Г Ботанічны сад Беларускай сельска-гаспадарчай акадэміі ў Горках.

ІКП і НК—Інстытут прыкладнай ботанікі і новых культур.

H & S—Садоўнічества Гааге і Шмідт у Эрфурце (Нямеччына).

Vilm—Садоўніцтва Vilmorin ва Францыі каля Парыжу і г. д.

---




Схэматычны плян гадавальн. I на мінэральнай глебе.

РАЗЬДЗЕЛ I

## I. Гадавальнік на мінэральнай глебе (супясчанай).

### 1. Расьліны, якія разводзяцца галоўным чынам для азнаямленьня з імі ва ўмовах Беларусі, для вывучэньня іх асаблівасьцяй і цікавыя з навуковага і іншага боку.

Прыклады гэткіх:

*Аер ніцы*—аир карликовый. (Aroideae—Acorus minimus Hort). № 7-29 Маск. бот. сад; ВБС—Кітай, Японія. 25 *см*—10 *см*.

Оранжэрэйная расьліна рэдкая ў культурах, дэкорацыйная для акварыумаў, ароматычная, этарна-алейная, цікавая як субтропічная паўднёвая, якая вытрымлівае наш клімат. Расьліна, падобная да нашага звычайнага аеру, занесенага да нас, паводле паданьняў, з Індыі праз татар і які распаўсюджваецца кавалкамі сьцябла і зьдзічэў у Заходняй частцы Саюзу.

*Айлант*, — лаконос, айлант. (Rutaceae — Ailantus glandulosa Desf). №2-VI-7. БДУ. Японія, Кітай. 20 *м*—0,5 *мт*.

На бацькаўшчыне дрэва сярэдняй велічыні, у нас звычайна адмярзае да кораню, утвараючы досыць высокія кусты. Дае асаблівы ляк, які ўжываецца для кітайскіх і японскіх вырабаў. Лісты, якія дасягаюць 60 *см* даўжыні ідуць на корм вусьню айлантаваму шоўкапраду, з прадзіва якога робяць некаторыя шоўкавыя тканіны, накшталт чэ-сун-чы ці чэ-су-чы. Цікава, што ў сярэдняй Эўропе прабавалі гадаваць гэтых шоўкапрадаў на адкрытым паветры. Вельмі дэкорацыйная расьліна, якая вылучае надта няпрыемны пах. Часам памылкова называюць кітайскім ясенем. У сярэдняй паласе разводзіцца як травяністы шматгоднік.

*Гарлянка паўзучая бледная*—живучка бледная. (Labiatae—Ajuga reptans L. v. fl. pallido (albido). № 1, V-12. Скарыгалава. Мазырскае акругі. Палесьсе. 12 *см*—12 *см*.

Новая форма з амаль белымі, бледналілёватымі кветкамі; цікавая недаразьвіцьцём пігмэнту ў кветках; асноўны від ужываецца ў народнай мэдыцыне і часта зьмешваецца з брунэлькай.

*Гарлянка паўзучая чырвоналісьцёвая*—живучка краснолистная (Labiatae—Ajuga reptans L. v. fol. puspureis). № 6. H. S. ВБС, БДУ. Сярэдняя Эўропа. 15 *см*—15 *см*.

Асобая антоцыяновая (чырвоналісьцевая) форма, вясною і ўвосень адценьне лістоў чырвонае. Як і папярэдняя адмена служыць для аздобы камяністых вучасткаў. Цікавая ў сэнсе вывучэньня антонцыяну.

*Ворлікі, галубкі*—водосбор. (Ranunculaceae—Aquilegia vulgaris L. v. monstrosa). № 8-28. Віц. Вуч.-паказ. б. сад. Сярэдняя Эўропа. 65 *см*—60 *см*.

Вядомая старадаўняя дэкор. расьліна, цікавая частка праяўнай рознастайнасьцю афарбоўкі венчыку. Гэты экзэмпляр на месцы паходжаньня паказваў асаблівую выроднасьць:ператварэньне частак кветкі ў зялёнае лісьцё, нават плодалісьц. і семяпучкоў (metamorphosis regressiva). Цікава, што пасьля перасадкі на новае (сухое) месца, гэтая зьява спынілася. Мажліва, што пасьля размнажэньня і перасадкі на вільготную стаянку рэгрэсыўны мэтаморфоз зноў зьявіцца і нормальныя кветкі ператворацца ў зялёныя. Есьць дапушчэньне, што на гэтую выроднасьць робяць уплыў асобыя ўмовы ці шкоднікі (шасьціножкі, грыбкі, бактэрыі).

*Быльнік малы*—полынок. (Compositae—Artemisia austriaca Jacq). № 1, IV-I. Знойдз. на дар. балот. ст. Чорназемная паласа. 35-40 *см*—15 *см*.

Цікавая, стэпавая, пахучая, лекавая расьліна (народн. мэдыц.). Дэкорацыйная для ўзорных клюмб і бордзюраў. Доўгімі корнявымі паросткамі замацоўвае лёгкія глебы.

*Крыжант індыйскі*—хризантема. (Compositae—Chrysanthemum indicum Cass. v. japonicum—Thnbg. f. Jardin des Plantes Vilm). № 5, II-5—Vilm ВБС. БДУ. Японія. 0,5 *м*—0,5 *м*.

Вядомая дэкорацыйная расьліна, якая разводзіцца ў аранжэрэях. Гэтая адмена цікавая, хоць і мае малыя махровыя кветкі, тым, што добра вытрымлівае наш клімат і культывуецца як многагоднік на адкрытым паветры.

*Ціпец пясковы*—типец. (Gramineae—Corynephorus canescens (L) Beauv). № 7-14. З Мар'іна. Зах. Эўропа. Выдм. пяс. Палесьсе. 15 *см*—15 *см*.

Трава, характарная для сыпучых пяскоў і некаторых пустынных мясьцовасьцяй. Адзін з піонэраў натуральнага замацаваньня выдмаў. Можа мець дэкор. значэньне, дзбкуючы бірузова-блакітнаму колеру лісьця і фіялетава-чырвонаму адценьню ніжняй часткі сьцяблоў. Цікавая ў эколёгічных адносінах. Часам засьмечвае пясочныя культуры.

*Жабнік* — жабник. (Ranuncul. — Ficaria ranunculoidesRoth). № 2, IV-9. Вак. Менску БДУ. Эўропа. 10-15 *см*—10-15 *см*.

Надта цікавая ў біолёгічных адносінах нярэдкая расьліна.Ся)род лета нібы зьнікае да наступнай вясны. Падземныя (карнявыя), а таксама і паветраныя (пазушныя) бульбіны могуць ужывацца ў яду. Калі іх вельмі многа, пасьля моцнага дажджу вымытыя з зямлі, яны нагадваюць рассыпаныя зярняты пшаніцы (нябескі хлеб, нябеская пшаніца, ячмень). Адсюль паданьне аб выпаўшых разам з дажджом хлебных зярнят. Раньняя веснавая расьліна, якая расьце звычайна ў цяні дрэў, галоўным чынам пакуль яны не пакрыліся густым лісьцем. Маладое лісьце ўжываецца ў выглядзе салаты (пераважна да цьвіценьня) з алеем і воцатам на Беларусі, Польшчы і Літве. Лічацца карысным пры веснавых леках (народ. мэдыцыне). Бульбіны ў вараным ці смажаным выглядзе нагадваюць бульбу з невялікім перцавым прысмакам.

*Геранія крывавая*—герань кровяная. (Geraniaceae—Geranium sanguineum L). № 4, IV-8. ВБС. БДУ. Чорназ. паласа. Бар. Палесьсе. 0,5 *м*—0,5 *м*.

Дэкорацыйная шматгадовая расьліна. На Беларусі сустракаецца ў дзікім выглядзе; буйныя, чырвонамалінавыя кветкі, вогненна-чырвоныя лісты (увосень) робяць яе здатнай для камяністых вучасткаў, бордзюраў і клюмб. Існуе адмена з белымі кветкамі, вельмі эфэктная.

*Баршчэўнік вялікі*—борщевник большой. (Umbelliferae—Heracleum eminens Hort. (v. f. barbatum auct.)? № 6, III—2 ГБС—ВБ с. БДУ. Сібір (Каўказ?) 1,25 *м*—1,25 *м*.

Дэкар., дзякуючы орнамэнтальным формам, велічыні і сваёй прыгожасьці; гэты від вельмі карысны ў ляндшафтным садоўніцтве, часам засьмечвае глебу. Этарна-алейная, прысмакавая і лекавая (народ. мэдыцына). Сок мае гарчычныя, раздражаючыя скуру ўласьцівасьці; ён пякучага смаку і атрутны. У дзяцей, якія робяць з яго сьцяблоў дудкі, часам заўважаецца моцная пухліна губ. Добра расьце на асушаным тарфяніку.

*Касач пеўнік*—косач, касатик сибирский. (Iridaceae—Iris sibirica L.). № 4 V—12. БДУ. Эўразія. 1,2 *м*—1,2 *м*.

Дэкар. Заўважаецца некаторая зьменнасьць у афарбоўцы венчыка ў розных форм. Новая кармовая для сырых лугоў і балотных культур. Замяняе і перавышае. Iris pabularia (касач выпасавы). Як усе касачы, зьяўляецца аднэй з лепшых садовых расьлін.

*Юрынэя*—юринея. (Compositae—Jurinea cyanoides Rchb.) № 7—24. Скрыгалава, Мазырск. акр. Палесьсе. 0,5 *м*—0,5 *м*.

Цікавая расьліна сыпучых пяскоў стэпаў і пустынь. Арыгінальна паступовае разьвіцьцё кветкавага сьцябла. Прыстасавана, каб захаваць маладыя суквецьці ад веснавых прымаразкаў і халодных начных рос.

*Воцатнік*—уксусник. (Nyctaginaceae — Oxybaphus nyctagineus Sweet. v. cleistogama Ad. f. nova). № 7—32. Нароўля, Маз. акр. Мэксыка (на Беларусі знойдзена ўпяршыню) 0,6 *м*—0,6 *м*.

Знаходжаньне ў дзікім выглядзе гэтай мэксыканскай расьліны, відавочна занесенай, цікава ў высокай ступені. Выяўлены новыя

формы з самаапылкавальнымі (клейстогамнымі) кветкамі. Клейстогамія захоўваецца не заўсёды і, як відаць, мацней на балотнай глебе.

*Труцізна*—сумах—едкое дерево. (Anacardiaceae—Rhus toxicodendron L.). № 6, VI—8. Б. С. Л. У.—Вялікалетч. С. Паўночае ўзьбярэжжа Ціхага акіяну, Сахалін. 0,35 *м*—0,35 *м*.

Адна з самых атрутных расьлін, шкодных пры датыканьні да яе. Месцамі ў Паўночнай Амэрыцы раней ужывалася для аховы культурных плошчаў ад непажаданых наведваньняў. Сок выклікае цяжкія раны. Ня ўсе людзі аднолькава ўспрымальныя да гэтай атруты.

*Кавыль перкаваты*—ковыль перистый. (Gramineae—Stipa pennata L.). № 2, II—9. Курс В. Б. С. Чорназемная паласа. 1,00 *м*—1,00 *м*.

Сапраўдны кавыль з чорназемна-лесастэпавай часткі Курскай губ. Цікава яго спрабаваньне ва ўмовах БССР. Дэкарацыйная. Арыгінальна расьсейваньне насеньня і самазакопваньне яго ў зямлю.

*Жывакост*—окопник. (Borragaceae—Symhytum incertum m. sp. fl. coerul). № 5, II—8 Vilm В. Б. С. Каўказ? 0,8 *м*—0,8 *м*.

Цікавая дэкорцыйная расьліна. Можа быць кармовай ня горш Symphytum asperrimum. Атрымана ад францускага бот. Ф. Вільморэн у Вялікалетчанскім Б. С. Як відаць, гэта нішто іншае як S. caucasicum. Вільморэн атрымаў яе з Кэнтэрбэрыйскага батаніч. саду ў Англіі. Добра расьце на балоце.

*Казлабарод каротканосы* — Козлобородник коротконосый. (Compositae—Tragopogon brevirostris D. C. v. floccosus D. C.). № 1, V—7. Скрыгалава Мазырск. акр. Палесьсе. 0,35 *м*—0,35 *м*.

Беларуская расьліна, распаўсюджаная на пяскох. Новая ў сэнсе скарыстаньня яе корняў у яду. Пры гародняй культуры паляпшаецца ў сваіх якасьцях. Варта было-б заняцца сэлекцыяй і паставіць досьледы масавага разьвядзеньня як на мінэральнай глебе, так і на балоце.

## Гадавальнік I (на мінэр. глебе).

*(Працяг).*

**2. Расьліны, якія разводзяцца спэцыяльна як садовыя і дэкорацыйныя, для азнаямленьня, размнажэньня і скарыстаньня на практыцы.**

Яны могуць быць прадстаўлены наступнымі (аддзел садовых):

*Рожа-шляз*—шток роза инжиралистая. (Malvaceae—Althea ficifolia Cav. (hybr.) v. Expectation). № 1, III—3. Паўн. Амэрыка. ПАЗШ. 2 *м*—2 *м*.



Гэтая мальва была прыслана насеньнем з Паўн. Амэрыкі для азнаямленьня з яе асаблівасьцямі. Расьліна гэта часта разводзіцца для ўбіраньня гародчыкаў пасяленцамі з Беларусі. Цікава, што і ў нас розныя розы-шляз зьяўляюцца аднымі з любімых у народзе дэкор. расьлін. На новай бацькаўшчыне перасяленцы называюць гэтую форму Expectation, Hope, што азначае чаканьне, надзея.

Ёсьць меркаваньні, што многія адмены рожы-шляз ці мальвы могуць быць выкарыстаны ў якасьці добрых тэхнічна вартых тэкстыльных ці прадзільных расьлін.

*Канвалія, лантуш поўны*—ландыш махровый. (Asparagineae—Convallaria majalis L. v. fl. pleno). № 4, V—1. H. S. ВБС. Сярэдняя Эўропа. 0,3 *м*—0,25 *м*.

Цікавая адмена вядомага лантушу з махровымі кветкамі, якая часта ўтварае выродныя венчыкі. Звычайна бясплодная. У Б. Б. садзе, адкуль атрыманы гэтыя экзэмпляры, яны былі пасаджаны разам з другой адменай, якая мае ружовыя кветкі. Пры перасадцы ў няцьвітучым стане было цяжка іх зьмяніць і на некаторых экзэмплярах мажліва зьявяцца звычайныя кветкі з фіялетава-ружовай афарбоўкай.

*Даціска*—датиска коноплянная. (Dacisceae—Datisca cannabina L.). № 1, III—6. Бот. С. Б. С-Г. А. (Горкі). Паўн. Амэрыка і Азія (Крыт.) 1 *м*—0,5 *м*.

Часта ўжываецца дзякуючы прыгожай форме лістоў як дэкорацыйная для вялікіх садоў і паркаў. Цьвіце з ліпеня—верасьня. Цьвіценьне ня мае дэкор. значэньня. У нас некалькі чулае да марозаў.

*Іскаркі лятчанскія*—гвоздика лятчанская. (Caryophyllaceae—Dianthus hybridus Letce — Wielkie Ad.). № 8, II. ВБС. 0,5 *м*—0,5 *м*.

Штучны гібрыд, атрыманы Адамавым ад Dianthus superbus L., апылкаванага пылком D. barbatus L. Звычайна адзначаецца няплоднасьцю і размнажаецца толькі вэгетацыйна. Апрача навуковага інтарэсу, зьяўляецца выдатнай, зусім новай трывалай дэкорац. расьлінай. Кветкі буйныя, пахучыя, ружовыя. Разьмешчаны яны шчыткам. Цьвіценьне працяжнае. Расьліна мае чырвоныя вузлы сучленьняў, афарбаваныя ў цёмна-пурпуровы колер.

*Інкарвілея кітайская*—инкарвиллея крупноцветная. (Bignoniaceae—Incarvillea grandiflora Bur. et Franch. v. brevipes Sprague). № 4, VI—5. ВБС. Юнан, Кітай. 25 *см*—25 *см*.

Новая рэдкая дэкор. расьліна, трывалая, вельмі прыгожая. Заслугоўвае распаўсюджваньня і пакуль яшчэ зьяўляецца навіною. Корні ў выглядзе тоўстых бульбін.

## Гадавальнік I (на мінэр. глебе).

(*Працяг*).

### 3. Лекавыя расьліны.

Сюды належаць мяты, палыны, рамонкі, вальяр'яна і шэраг і іншых, напрыкл. наступныя:

*Красаўка*—сонная одурь, красавка. (Solanaceae—Atropa belladonna L). № 8—9. БДУ. Паўдн. Эўропа 0,75 *м*—0,50 *м*.

Лекавая, моцна атрутная расьліна з паніклымі гразка-бура-чырвонымі ці мутнафіялетавымі кветкамі. Плод—бліскучая чорная ягада. У мэдыцыне ўжываюцца розныя наркотычныя прэпараты пераважна з лісьця. З іх здабываецца атропін, які расшырае зрачкі і мае адурваючы ўплыў, па якой прычыне зьяўляюцца розныя брэдавыя ўяўленьні. Разам з беляною і іншымі наркотыкамі ў сярднявечча сок расьліны ўваходзіў у склад розных „зельляў", ужываючы якія, некаторыя асобы ўяўлялі сабе ваўкалакамі, ведзьмамі і падпадалі галюцынацыям. Ужываецца ў офтальмалёгіі, пры нэрвовых болях і д. г. п. Унутранымі прыёмамі ці ўпусканьнем у вока нязначнай колькасьці соку, жанчыны дасягалі пашырэньняў сябе зрачкоў, прычым вочы рабіліся чорнымі і бліскучымі.

*Ясянец*—бадьян, ясенец (Rutaceae—Dictamnus fraxinella Pers. rosea). № 7—8. Сад. БДУ. Паўдн. частка Сяр. Эўропы, Каўказ, Малая Азія, Паўночны Кітай. 0,60 *м*—0,45 *м*.

Лекавая ў народнай мэдыцыне. Ароматычная, этарна-алеевая. Вельмі дэкорацыйная ў садоўніцтве. Гэтая расьліна лічыцца паклаўшай пачатак даўняяўрэйскаму паданьню аб тым, што нібыта Майсей бачыў у пустыне куст які гарэў, але пры гэтым не згараў. Калі паднесьці пасьля гарачага дня запаленую сьвечку ці запалку да зусім распукнутых суквецьцяў, дык лятучыя матэрыі, якія вылучаюцца залозістымі валаскамі, з полымем і трэскам момантам загараюцца, а сьцябло, лісьце і кветкі захоўваюць пасьля таго свой ранейшы выгляд (неапалімая купіна біблії).

*Рабарбар*—ревень тангутский. (Polygonaceae—Rheum palmatum L. v. tanguticum Max.). № 2, VI—I. ГБС, БДУ. Кітай. 2,00 *м*—1,20 *м*.

Сапраўдны лекавы рэвень з Паўночнага Кітаю. Яго корань, высушаны і расьцёрты ў парашок—вядомы сродак, які выклікае развальненьне. Ня трэба зьмешваць з іншымі відамі рэвеню, лісьц. хвасткі якіх і лісьце даюць гародніну.

*Шалвія лекавая*—шалфей лекарственный. (Labiatae—Salvia officinalis). № 8—16. БДУ. Паўдн. Эўропа. 0,50 *м*—0,35 *м*.

Хмызьняк міжземнаморскай вобласьці. Вялікае ўжываньне ў мэдыцыне. Кухенная прысмака. Цікава раскіданьне насеньня і прыстасаваньне тычачачак, дзякуючы якому яны ўдараюць па сьпіне наведваючых кветкі шасьціножак.



*Калуфер*—кануфер. (Compositae—Tanacetum balsamita L). № 7—10. ВБС. Паўдн. Эўропа. 1,00 *м*—0,75 *м*.

Часта ўжываецца ў народнай мэдыцыне, асабліва на Ўкраіне. Любімая пахучая расьліна ў народным быце.

*Піжма кучаравая*—пижма курчавая. (Compositae—Tanacetum. vulgare L v crispum Hort). № 7—1. Віцебск. Эўропа. 0,70 *м*—0,65 *м*.

Лекавая ў народнай мэдыцыне. Ароматычная. Рэдкая кучаравая адмена, якая ўжываецца для пахучых букетаў і настоек на сьпірытусе.

## Гадавальнік I на (мінэр. глебе).

(*Працяг*).

### Расьліны, якія маюць (ці могуць мець) тэхнічнае значэньне.

*Бавоўнік*—ватачнік. (Asclepiadaceae—Asclepias cornuti Dcn.) № 4, IV—II. ВБС. Паўн. Амэрыка. 0,75 *м*—0,75 *м*.

Цікавая расьліна. Мае практычнае значэньне: меданосная, прадзільная (лятучкі насеньня—расьлінны шоўк, валокны—тэкстыльны матэрыял) і гуманосная. Апрача таго, яна дэкорацыйная, дзякуючы лісьцям і пахучым кветкам, якія маюць уласьцівасьць ушчымліваць ногі ці вусікі шасьціножак і затрымліваць нямоцных з іх некаторы час. Дробныя шасьціножкі часам гінуць. Болей буйныя адрываюцца разам з сваясаблівымі ўтварэньнямі (полініямі), якія пераносяцца на другія экзэмпляры і робяць крыжавое апылкаваньне. У багатым млечным соку знаходзяцца гумападобныя матэрыі (смолы, смолкі) і д. г. п.

У Паўн. Амэрыцы ў часе вайны 1860 г. (супроць рабаўласьн. Штатаў), якую вёў прэзыдэнт Лінкольн, была зроблена спроба за недахопам бавоўны скарыстаць для прадзіва лятучкі бавоўніка. Тэхніка таго часу паказала, што прадзіва і тканіны, прыгатаваныя з лятучак бавоўніку, калі іх браць без усялякіх дамешак—нямоцныя і ня могуць зусім замяніць бавоўну. Валокны гэтай расьліны пры адпаведнай апрацоўцы могуць даць вяроўкі і грубыя тканіны. На поўдні—сьмяцьцёвая.

*Малачай кіпарысны*—молочай кипарисовый. (Euphorbiaceae—Euphorbia cyparissias L). № 7—11. Ваколіцы воз. Белага. Пяскі Сяр. Эўропы. 0,40 *м*—0,40 *м*.

Расьліна, у млечным соку якое ёсьць гума; дэкорац., атрутная.

*Малачай бліскучы*—молочай блестящий. Euphorbiaceae—Euphorbialucida W. K.). № 7—26. Скрыгалава, Маз. акр. Палесьсе. 2 *м*—1 *м*.

У млечным соку ёсьць гума, здабываньне якое па прапанове правіз. Т. Т. Пяскоўскага можа мець практычное значэньне. Дасьледваецца ў розных хэмічных лябораторыях. Дэкорацыйная.

*Зуброўка*—лядник. (Gramineae—Hierochlora odorata Wahlnb (van Haustalis Roem?). № 7—17. Скрыгалава, Маз. акр. Эўропа. 0,40 *м*—0,35 *м*.

Трава, карысная для замацаваньня пяскоў. Ароматычная (кумарына); ужываецца ў гарэлачнай вытворчасьці.

*Мята пярцовая (халодная)*—мята перечная. (Labiatae—Mentha piperita L. v. vera). № 6, V—10. ВБС. Зах. Эўропа. 0,50 *м*—0,30 *м*.

Сапраўдная ангельская чорная ці халодная мята, якая дае этэрны мятны алей і мэнтоль. Ужываецца ў мэдыцыне, цукерачнай і лікёрнай вытворчасьці, а таксама ў хатняй гаспадарцы, дзе ёю карыстаюцца з рознымі мэтамі. Вытрымлівае культуру на балотах.

*Мята ніцая*—мята рэквіена. (Labiatae—Mentha requienii Benth). № 1, V—1. Vilm. ВБС. выспа Корсіка. 0,05 *м*—0,05 *м*.

Адна з самых дробных кветкавых расьлін. Натуралізуецца і ў нас. Пры датыканьні моцна пахне мэнтолем.

*Монарда дудкавая*—монарда трубчатая. (Labiatae—Monarda fistulosa L). № 1, III—5. Бел. С-Гасп. акад. Канада. 0,45 *м*—0,10 *м*.

Этарна-алеевая, дэкорац., пахучая расьліна, адзначаецца зьменнасьцю ў адценьнях афарбоўкі венчыкаў. Мае пах, які нагадвае пах настойкі, аптэкавай міры. Болей трывалая і меней прыгожая, чым Monarda didyma L. Апошняя пахам нагадвае Ocimum basilicum і часткова мяту, мае болей буйныя і яскравыя кветкі.

*Кацямятка цытрыновая*—котовник лимонный. (Labiatae—Nepeta citriodora Dumoul), № 4, VI—9 ВБС. БДУ Эўропа. 0,75*м*—0,75 *м*.

Этарна-алеевая, вылучаючая лятучы, пахнучы цытрынам і часткова рожай, складаны пахучы алей. Вельмі трывалая, лёгка абсемяняецца. Можа служыць для мэт парфумэрыі. Знойдзена проф. Гайдуковым у Івана-Вазьнясенску, Нікольскім каля Віцебску.

*Мацярдушка*—душица. (Labiatae—Origanum vulgare L). № 3, I—3. БДУ Сярэдняя Эўропа. 0,50 *м*—0,50 *м*.

Этарна-алеевая, пахучая, прысмакавая. Кухенная трава, вядомая пад назваю „ангельскі майёран". Дэкорац., шматгадовая.

*Маташнік агромністы*—подбел гигантский. (Compositae—Petasites giganteus Schmidt). № 5, VI—2. с. Юр'ева. Цьв. губ. ВБС. Сахалін, Японія. 2,00 *м*—1,50 *м*.

Новая, кармовая для сіласаваньня. Вельмі дэкорацыйная. Раньня-веснавая, меданосная. Вельмі карысная ў ляндшафтавым садоўніцтве. Удаецца на торфе.

*Зельлямалочнік страўны*—фітолякка с'едобная. (Phytolaccaceae—Phytolacca kaempheri A. Gray). № 2, I—2, БДУ. Японія. 1,50 *м*—0,50 *м*.

Орнамэнтальная. Лісьце ўжываецца як гародніна (шпінатная). Сакавітыя плады даюць атрамант. Кармовая для сіласаваньня. На балоце расьце дрэнна, хоць для правільнага разьвіцьця і патрабуе шмат вільгаці.



*Грэчка альпінская*—гречиха альпінская, таран. (Polygonaceae—Polygonum alpinum L). № 4, II—2. H. S. ВБС. Горы Сяр. Эўропы, Зах. Азія, усх. Расіі. 1,00 *м*—1,00 *м*.

Гарбоўная, лісьце ўжываецца як шпінат, дэкорацыйная (меданосная?).

*Разэда фарбоўная*—рэзеда красильная. (Resedaceae—Reseda lutea L. (v. an. R. luteola L?). № 2, V—3. БДУ. Зах. Эўропа. 0,80 *м*—0,50 *м*.

Фарбавальная расьліна, дае жоўтую фарбу. Добра расьце на асушаным балоце.

*Чорнакорань гішпанскі*—сладкий корень. (Compositae—Scorzonera hispanica L. v. perennis, rossica). № 7, IX—26. БДУ Заходняя Эўропа. 0,60 *м*—0,60 *м*.

Лісьце дае корм шоўкавічнаму вусеню. Выдатны гароднінны караньплод, які заслугоўвае шырокага распаўсюджаньня. Добры на асушаным балоце.

*Чабор цытрынавы*—тимьян лимонный. (Labiatae—Thymus chamaedrys Fr. v. citriodorus Ad). № 6, IV—3. ВБС. Віцебшчына. 0,20 *м*—0,15 *м*.

Новая, этарна-алеевая расьліна, знойдзеная Адамавым на Беларусі—сьпярша на Віцебшчыне, а потым каля Менску, у Казіміраўцы. Можа ўжывацца ў парфумэрнай і лікёрнай вытворчасьці. Ня трэба зьмешваць з Thymus vulgaris L. citriodorus Fr. Хэмічныя дасьледваньні рабіліся ў Віцебскім сельскагаспадарчым інстытуце, а таксама ў Ленінградзе ў галоўным батанічным садзе ў проф. Монтэвэрдэ.

*Заўвага*. Шмат якія з належачых сюды расьлін не памянёны таму, што будучы аднагадовымі, месца іх знаходжаньня на гадавальніку мяняецца; большай часткай яны знаходзяцца „у засевах" вучастку № 1 (і бліжэйшых да яго).

## Гадавальнік I (на мінэр. глебе).

*(Працяг).*

### 5. Расьліны цікавыя ў сельскагаспадарчых адносінах (паляводныя).

*Аўсянік высокі, францускі райграс*—овес высокий. (Gramineae—Arrhenatherum elatius) М. К. № 5, IV—2. ВБС. Эўропа. 1,20 *м*—1,00 *м*.

Адна з лепшых кармовых траў, вядомая пад імем францускага райграсу. Зрэдку сустракаецца ў дзікім выглядзе на Беларусі на глiністых глебах, напр., на Віцебшчыне. Дае нежнае сена. Удаецца на асушаным тарфяніку. Асаблівая стракаталісьцёвая адмена

знойдзена Адамавым каля Віцебску. Аб ёй глядзі ніжэй у апошнім аддзеле.

*Мурожніца паўднёвая*—овсяніца южная. (Gramineae—Festuca sulcata Hack) Асканія-Нова. Паўднёвая Эўропа. 0,40 *м*—0 40 *м*.

Прывезена з дзяр. зоолёг. крым. заказьн. (А-Н.). Добрая кармовая трава, асабліва для авечак. Вельмі засушатрывалая, дае далікатнае дробнае сена, але цьвярдое. Здатная для пяскоў, удаецца на асушаным тарфяніку. Дзякуючы шызаму адценьню лісьця і прыгожым дзярнікам дае дэкор. бордзюры.

*Лён шматгадовы*—лён многолетний. (Linaceae-Linum perenne L), (у засевах) БДУ. Лесастэпавая паласа. 0,75 *м*—0,75 *м*.

Цікавая новая тэкстыльная расьліна. Шматгадовы від моцнаўраджайны, непатрабуючы штогодняга засеву. Яго можна скарыстаць скошваньнем. Добра расьце на асушаным тарфяніку і на асушаных мясцох. Нашы экзэмпляры моцна пацярпелі ад вусеню чэрвеньскага хрушча Rhisotrogus solstitialis. Зноў зроблены засевы з матэрыялу, атрыманага ад H. S. з Эрфурту (Нямеччына).

*Люцэрна сеўная*—люцэрна французская. (Papilionaceae—Medicago sativa L.) № 2, III—5. В. С. БДУ. Паўдн.-Заходн. Эўропа. 0,80 *м*—0,80 *м*.

Выдатная кармовая шматгадовая трава, расьце і на асушаным балоце. Экзэмпляр вынуты з зямлі на Віцебшчыне, дзе ён сярод іншых зьявіўся самасевам і праіснаваў у дзікім стане каля 20 год. Пазьней перанесена ў бот. гадавальнік БДУ, а адтуль—перасаджана да нас у 1927 годзе.

*Пэрлаўка высокая*—перловік высокій. (Gramineae—Melica altissima L.). № 2, 1—6. БДУ. Паўдн. частка лесаст. паласы 0,75 *м*—0,70 *м*.

Вельмі добрая кармовая трава для сухаватых, а таксама зацененых месц. Існуе другая адмена з пурпурова-чырвонымі каласковымі лусачкамі; вельмі дэкорацыйная.

*Мятлюжок лугавы*—мятлик луговой. (Gramineae-Poa pratensis L). № 7—29. Скрыгалава і др. мясц. Эўропа. 0,70 *м*—0,70 *м*.

Вядомая кармовая трава, адна з лепшых у травасеяньні і лугаводзтве. Добры на балоце. Высаджваецца ў некалькіх формах, featuresрознага пахаджэньня, для назіраньняў і параўнаньня.

*Жывакост лекавы*—окопник лекарственный. (Borragaceae—Symphytum officinale L). № 4, VI—2. БДУ. Эўропа. 0,75 *m*—0,75 *m*.

Мясцовая дзікая расьліна, рэкомэндуецца для сіласаваньня; існуе некалькі блізкіх форм; ужываецца ў народн. мэдыцыне. У апошні час зноў вывучаецца як кармовая (Пар. S. asperr.).

*Дзятліна пэрсыцкая*—клевер персидский. (Papilionaceae—Grifolium resupinatum (suavolens Willd). У засевах H. S. Аўганістан. Пэрсыя. 0,65 *m*—0,50 *m*.

Выдатная кармовая расьліна. Культывуецца таксама ў Аўстраліі ўзімку і ў асаблівасьці часта разводзіцца ў Аўганістане, Пэрсыі. Цікава, што нам удалося атрымаць пры позьнім засеве ў грунт у халоднае сырое лета крыху сьпелага насеньня, з якіх і паходзяць існуючыя ў нас экзэмпляры. Дае многа зялёнай масы, нязвычайна пахучыя кветкі, не цьвярдзее, вельмі дэкор. расьліна. Кветкі мацней за ўсё пахнуць у дзень пры сонечным асьвятленьні. Проф. Вавілаў, які вывучаў гэтую расьліну ў Аўганістане і Пэрсыі, вельмі зацікавіўся мажлівасьцю вывядзеньня падыходячая для Беларусі расы, убачыўшы яе ў нашым гадавальніку.



## Гадавальнік I (на мінэр. глебе).

*(Працяг).*

### 6. Расьліны гародныя, кухенныя травы, шпінатныя, салатныя, прысмакавыя і інш.

*Часнотка лекавая*—чесночная трава. (Cruciferae-Alliaria officinalis Andrz.) № 2, VII—8. Лошыца-Любаньск. Заходняя Эўропа. 1 *м*—0,55 *м*.

Цікавая крыжыкавая, раіцца як салатная, прысмакавая для розных страў. Аднагоднік зусім варты разьвядзеньня на гародзе, але мала вядомы. (Часам бывае двохгадовай расьлінай).

*Цыбуля падвойная*—лук египетский. (Liliaceae-Allium proliferum Host). № 1, 1—6. H. S. В. Б. С. Бацьк. невяд. 0,60 *м*—0,60 *м*.

Культурная форма шматгадовай цыбулі. Позьняй восеньню і на працягу лета лісьце ўжываецца „на пяро“, г. зн. як зялёная цыбуля. Маладыя падземныя цыбуліны ідуць на яду і як прыправа. На стрэлках замест кветак ці сярод апошніх зьяўляюцца дробныя цыбуліны (ужываюцца як „шалот“ і „пікулі“), якія часам у сваю чаргу прарастаюць у стрэлку, даючы ў другой палове лета трэці паверх цыбукі.

*Дзягіль*—дегиль, дудка, вонюка. (Umbelliferae-Agelica archangelica L). № 2, 1—9. ВБС. Эўропа. Беларусь. 1,20 *м*—0,55 *м*.

Вядомая ароматычная, парасонавая расьліна, звычайна двухгадовая, ужываецца ў консэрвах, варэньнях і лікёрнай вытворчасьці (уваходзіць у абсэнт, шартрэз, бэнэдыктын, французскія цукеркі і цукаты). Лекавая, пераважна ў народнай мэдыцыне.

*Званкі аднабокія*—колокольчик репчавидный. (Campanulaceae-Campanula rapunculoides L.). № 2, IV—8. (Мясцов.). Эўропа. 0,80 *m*—0,60 *m*.

Дзікая, шматгадовая, дэкор. Больш тоўстыя сьцябло-карані на багатых пухкіх глебах могуць ужывацца ў яду. Варта было-б заняцца сэлекцыяй і разводам для атрыманьня лепшага буйнаплоднага гатунку.

*Цьмянец страўны*—репный кервель, бутень репной. (Umbelliferae-Chaerophyllum bulbosum L.) № 5, IV—I, ВБС. Эўропа. 0,80 *м*—0,60 *м*.

Добры, але мала вядомы гародні кораньплод, дае салодкія ароматычныя кругляватыя корні, велічынёй з невялікую радыску. Ужываць іх можна позьняй восеньню, зімою пры захаваньні іх у пяску склепа. Губляюць свае якасьці пры пачатку вясны. Для карыстаньня патрэбны асобыя прыёмы культуры. Добра ўдаецца на балоце. Высяваць зараз-жа пасьля таго, як пасьпеюць, ці працяжна стратыфікаваць, іначай насеньне ляжыць год і болей у зямлі. Ва многіх мясцох за межамі ў вялікім ходзе.

*Кляйтонія*—кляйтония. (Portulaccaceae-Claytonia perfolita Don). № 1, II—I. Н. S. Амэрыка. 0,15 *м*—0,15 *м*.

Дробная, абсемяняльная, аднагадовая расьліна, якая ўжываецца ў яду пад назваю зімні портулак. Для нас, як відаць, значэньня ня мае.

*Цытрак страўны*—сыть с'едобная. (Cyperaceae-Cyperus esculentus L). № 1, IV—II. Сельскагасп. Акад. (Горкі) Эгіпэт. 0,50 *m*—0,50 *m*.

Выдатная расьліна, якая разводзіцца ў нас звычайна ў аранжэрэях. Расьце на сухіх мясцох і тарфяніку, утварае мноства дробных бульбін. Выведзена зусім трывалая раса. Бульбіны мучністыя, саладкавыя на смак, ідуць у яду ў вараным і сырым выглядзе. З іх прыгатаўляюць у Гішпаніі пітво—оршад, накшталт вадкага мігдалавага малака. З сухіх бульбін—парашок. Дае многа зелені і можа стаць новай харчовай і кармовай расьлінай. Недахопы: цяжкасьці зьбіраньня бульбін, іх драбната і нязручнасьць ачысткі ад глебы.

*Клапоўнік, жыруха, рыжуха*—клоповник. (Cruciferae-Lepidium ruderale L), (засевы). Мясцовая. Эўропа. 0,35 *m*—0,35 *m*.

Усім вядомае пустазельле, якое месцамі на Каўказе ўжываецца ў якасьці кухеннай прысмакі. Маладое лісьце ў рубленым выглядзе замяняе хрэн, з тоўчанага насеньня—прыправа накшталт гарчыцы.

*Рыжуха сеўная*—кресс-салат. (Cruciferae-Lepidium sativum L.), засевы Н. S. Паўдн. Эўропа. 0,40 *м*—0,35 *м*.

Вядомая расьліна. Часта ўжываецца як прыправа да салату і асобна з воцатам і алеем. Абсемяняецца. Проціцынготная.

*Любістык*—любистик, зоря. (Umbelliferae-Levisticum officinale Koch (v. ligusticum). № 8—18. ВБС. Эўропа. 1,00 *м*—1,00 *м*.

Любімая на Беларусі і асабліва на Украіне гародняя расьліна. Лісьце ўжываецца як прысмака і ў народнай мэдыцыне.

*Жабрыца*—жабрица. (Umbelliferae-Libanotis sibirica (L.?) an L. montana All?). № 4, 1—4 БДУ. Эўропа. 1,00 *м*—100 *м*.

Маладое лісьце замяняе пятрушку.



*Мядзьведка*—медведка. (Umbelliferae-Meum athamanticum Jacq). № 5, II—6. Л. У. ВБС. Горы Эўропы. 0,50 *м*—0,50 *м*.

Дэкарац. ароматычн. расьліна. Лісьце пахне памяранцавай цыдрой, сыльдарэем і кумарынаю. Выдатная кухенная прыправа.

*Цьмянец ганушавы*—мирра душистая, кервель испанский. (Umbelliferae-Myrrhis odorata S). № 5, III—10. с. Юр'ева, ВБС. Пірэнэі. 0,70 *m*—0,60 *m*.

Ароматычная кухенная трава. Сьцяблы ў Гішпаніі і ў Італіі ядуць у сырым выглядзе. Лісьце—прыправа. Сьцяблы і насеньне ідуць у гарэлачнай і кондытэрск. вытворчасьці, корні—у народнай мэдыцыне.

*Каўтунішнік двухгадовы*—ослинник двулетний. (Onagraceae-Oenothera biennis L.), № 6, VI—2. БДУ. Мясцовая. 1 *м*—1 *м*.

Занесеная з паўночнай Амэрыкі. Расьце на Беларусі на пяскох. Корні няцьвітучых экзэмпляраў за межамі ўжываюцца як дабаўка да салату. Смакам нагадвае рэдзьку.

*Кісьліца*—кислица. (Oxalidaceae-Oxalis tuberosa Hort), (у засевах) ІПБ і НК. Мэксыка. 0,30 *м*—0,25 *м*.

Дае бульбіны, якія ўжываюцца ў яду. Разводзіцца як бульба, на зіму выбіраецца. У нас лепш удаюцца іншыя віды амэр. oxalis напр.: Oxalis tetraphylla, той-жа культуры.

*Цьмянец горны*—горечник. (Umbelliferae-Peucedanum oreoselinum Mnch.). № 4, VI—15. (Мясцовая). Эўропа. 0,70 *м*—0,50 *м*.

Дзікая расьліна, якую ў некаторых мясцох БССР спажываюць дзеці пад назваю „пукі" (маладыя сьцяблы). Яна пахне памеранцам,ігліцай і часткова пятрушкай. Прысмакавая кухенная трава (лісьце і насеньне).

*Мажуха*—можжуха, фазалис. (Solanaceae-Physalis alkekengi L. (Franchetti). № 4, IV—4. БДУ. Паўдн. Эўропа. 0,45 *м*—0,40 *м*.

Палепшаная форма мажухі, якая дае смачныя плады (варэньне, марынады, ужываецца і ў сырым выглядзе). Дэкор. шматгадовік. У халоднае лета пры сасьпяваньні захоўвае пякучую гарчэчу, якой ня бывае калі пагода бывае гарачая.

*Барбадоская мажуха*—барбадоская мажуха. (Solanaceae-Physalis edulis Dum. (pubescens Hort). № 1, 1—8 (у засевах) ІПБ і НК. Амэрыка. 0,60 *м*—0,55 *м*.

Дае вельмі смачныя плады, зіму ў нас ня вытрымлівае, можа разводзіцца як памідоры. Корні захоўваюцца як у юргіні. Высаджваюць на захаванае сонечнае месца. Разводзіцца чаранкамі і насеньнем.

*Рута гародная*—рута, вейнрута. (Rutaceae-Ruta graveolens L.). № 2, VII—II. ВБС. Паўдн.-Зах. Эўропа. 0,60 *м*—0,60 *м*.

Прысмакавая кухенная і лекавая (у народ. мэдыцыне) трава. Улюбёная ў Літве, Польшчы і Беларусі. Некаторыя ўжываюць яе маладое лісьце, пасыпаючымі ім хлеб. Лічыцца лекарствам ад сардэчных хвароб.

## Гадавальнік I (на мінэр. глебе).

(*Працяг*).

### 7. Расьліны, якія маюць значэньне фруктова-ягадных.

*Суніцы пяцілісьцёвыя*—земляника пятилистная. (Rosaceae—Fragaria hagenbachiana). № 6, II — 4. Вільм. ВБС. Горы Францыі. 0,15 *м*—0,15 *м*.

Ня зусім дакладна вызначаны від суніц, атрыманы В. Б. садам з Францыі. Даў насеньне, з якога выведзена адмена часта з пяціскладаным лісьцем. Плады смачныя, даволі буйныя, ураджайныя.

*Сухадрэўка Альбэрта*—жимолость Альберта. (Caprifoliaceae—Lonicera alberti Rgl.). № 4, V—16. Ігнацічы. Стр. Азія. 1,00 *м*—0,65 *м*.

Цікавы дэкарацыйны хмызьняк з пахучымі прыгожымі кветкамі і пладамі, якія нагадваюць смакам ананас ці некаторыя гатункі ананаснай дыні. Выдатна расьце на пяску.

*Сухадрэўка страўная*—жимолость с'едобная. (Caprifoliaceae—Lonicera edulis Rgl.). № 8—25. ВБС. БДУ Камчатка 0,60 *м*—0,50 *м*.

Расьліна, вывезеная ак. Камаровым з Камчаткі. Добра расьце на торфе. Часам ужо ў канцы мая дае смачныя плады, калі яшчэ няма ніякіх ягад. Выглядам яна нагадвае чарніцы. Заслугоўвае распаўсюджаньня.

*Мамура, паляніка*—мамура, поляника. (Rosaceae—Rubus arcticus L). № 7—30. Цьвярская губ. ВБС. Сяр. Расія. 0,30 *м*—0,30 *м*.

Нізкі паўхмызьняк з ружовымі кветкамі, пахнучымі ананасам, пладамі. Балотная расьліна, якая дапасавалася ў нас і да сухіх стаянак. На поўначы прадмет гандлю. З яе атрымліваецца вядомы швэдзкі пунш, варэньне і інш.

*Касьцянкі кітайскія*—малина китайская. (Rosaceae—Rubus xanthocarpus Bur. et. Fr.). № 7—31. ВБС. Кітай. 0,35 *м*—0,35 *м*.

Адмярзаючы паўхмызьняк, які дае страўныя жоўтыя плады. Удаецца добра ў нашым клімаце. Недахопы: слабая ўраджайнасьць.

## Гадавальнік I (на мінэр. глебе).

(*Працяг*).

### 8. Расьліны новыя наогул, нідзе неапісаныя, расьліны новыя толькі для БССР і выяўленыя альбініруючыя стракаталісьцёвыя формы.

Гэткіх знойдзена ў розны час некалькімі супрацоўнікамі вельмі вялікая колькасьць (150 форм). Шмат якіх з іх на гадавальніку Балотнай станцыі няма. Па мэры размножэньня яны паступаюць сюды з Б. Б. С. каля Віцебску. Тут прыводзім толькі некалькі прыкладаў:

*Клён стракаталісьцёвы*—клен пестролістый. (Aceraceae—Acer platanoides L. v. fol. variegatis). № 6, 1—4. З гарадзкіх пасадак



экзэмпляр знойдзены на Землявробскім завулку супроць галоўн. будынку БДУ. Мясцовы клён дасягае 25 *м*—0,50 *м*.

Сярод гарадзкіх пасадак клёну, якія паходзілі з насеньня (сабранага ў лясох, акружаючых Менск) выяўлена новая стракалісьцёвая мутацыя, падобнай якой у літаратуры няма. Паводле нашай прапановы галоўным садоўнікам Менскага камгасу былі зроблены прывіўкі гэтай формы. Два экзэмпляры іх ёсьць на балотнай станцыі: адзін на мінэральным гадавальніку, другі высаджаны на тарфянік, каля ўваходу на вучастак дзікага саду.

*Паклянак*—пакленок татарский, клен. (Aceraceae—Acer tataricum L. v. fol. variegatis). № 6, 1—6. Выведзены засевам на дэндролёг. гадавальніку Балотн. станцыі. Насеньне ВБС. Асноўная форма да 5.000 *м*—0,35 *м*.

У ВБС ёсьць экзэмпляр, атрыманы ў 1903 годзе з СПБ помолёгічнага саду д-ва Рэгеля і Кэсэльрынга. Дэндролёгам С. Д. Георгіеўскім сабрана з яго насеньне. Апошняе высеена лябарантам белар. станцыі Усесаюзнага інстытуту прыкладной ботанікі і новых культур, лесаводам І. І. Собалевым на дэндролёгічным гадавальніку Менск. балотн. станцыі. Ім-жа выяўлены і выведзены гэты новы мутант.

*Аўсянік стракаты*—французский райграс пестролистый. (Gramineae—Arrhenatherum elatius M. et K. v. fol. vere variegatis) № 4, VIII—6. ВБС. БДУ. Віцебшчына. 1,30 *м*—0,90 *м*.

Знойдзен рабочымі В. Б. С. у яго ваколіцах. Новая нідзе не апісаная форма, адзначаецца стракаталісьцёвасьцю, якая праяўляецца, галоўным чынам, вясною і амаль зьнікае к восені.

*Смарганец шарсьцінны стракаты* — бухарнік шерстистый, пестрый. № 4, VIII—8. З Камароўскага балота. Мясцовы. 0,80 *м*—0,60 *м*. Знойдзены на Камароўскім балоце і становіць сабою вельмі дэкарацыйную мутацыю гэтай дзікай шматгадовай травы.

*Дуброўка гусіная*—лапчатка гусиная. (Rosaceae—Potentilla anserina L. v. aurea Ad.). № 5, 1—9. ВБС. Віцебшчына. 0,15 *м*—0,10 *м*.

Новая дэкарацыйная адмена з залаціста-жоўтапярэстым лісьцем, знойдзена каля Віцебску заг. Бот. навук.-пак. садам Вэт. інстытуту Л. Д. Нікольскім. Тая-ж форма знойдзена Адамавым на балоце „Камар. мох", каля возера „Князь" на Мазыршчыне.

*Шчамяліца лекавая, стракатая*—медуница лекарственная, пестрая. (Borragaceae—Pulmonaria officinalis L. v. fol albomarginatis Ad.). № 5, 1—7. БДУ. Прылукі каля Менску. 0,28 *м*—0,25 *м*.

У лесе каля Прылук знойдзена яшчэ неапісаная форма з белаакрайкавым лісьцем б. выкладчыцай Бел. дзярж. сельскагаспадарчага інстытуту Н. О. Цэтэрман-Кудзінай, супольна з У. У. Адамавым. Такая-ж форма знойдзена раней каля Віцебску проф. Ганешыным і А. І. Радкевічам і размножана А. Д. Нікольскім у Віцебскім навуч.-паказ. садзе Бел. дзярж. вэт. інстытуту. Вельмі дэкарацыйныя, цікавыя формы.




Схэматычны плян гадавальн. на тарфянай глебе



## РАЗЬДЗЕЛ II.

### Гадавальнік II (на балотнай глебе—тарфянай).

**1. Расьліны цікавыя ў навуковых адносінах (агульны аддзел). Расьліны, якія культывуюцца галоўным чынам для азнаямленьня з імі, для іх спрабаваньня ва ўмовах БССР, а таксама для вывучэньня іх асаблівасьцяй.**

*Аер ніцы*—аир карликовый (Aroideae—Acorus minimūt Hort) 1/10*) Маск. Бот. С. ББС. Кітай, Японія. 25 *см*—25 *см*.

Аранжэрэйная расьліна, рэдкая ў культуры. Дэкарацыйная для акварыумаў; этарна-алеевая. Цікавая як субтропічная, трывалая ў нашым клімаце. Здавальняюча перазімоўвае на балоце, прападае толькі частка лістоў.

*Карлікавая бяроза*—береза карліковая (Betulaceae — Betula nana L). 5/12. Ленінгр. губ. Ладога. Паўн. Эўропа. 1 *м*+—55 *см*.

Вельмі цікавы від балотнай бярозы, які многімі зьмешваецца з нашай нізкай куставой балотнай бярозай. Паводле апошніх даных сапраўдная паўночная карлікавая бяроза на Беларусі не сустракаецца, а калі і можа быць дзе-небудзь знойдзена, дык у выглядзе рэдкага выключэньня. Камароўскае балота ўладае многа меней кіслай глебай, чым паўночныя балоты, і некаторыя нашы культурныя вучасткі тут часам паказваюць лужную рэакцыю. На гадавальніку глеба пад некаторымі кустамі паўночнай карлікавай бярозы штучна падкісьляецца растворамі галыну і салянай кіслаты. Апошнія 4 кусты не падкісьлены (гл. Адамаў. Да пазнаваньня беларускіх бяроз).

*Глухі багоўнік*—багун глухой. (Ericaceae—Cassandra calyculata Don.). 5/12 Ленінгр. губ. Паўн. Эўропа. 1*м*+—50 *см*.

Цікавая балотная расьліна, умовы распаўсюджаньня якой на беларускіх балотах ня высьветлены. Спорадычна расьце ў паў-

*) Верхняя лічба паказвае № градкі, лічачы ад сядзібы балотнай станцыі к гораду; ніжняя—нумар расьліны па чарзе на градцы, лічачы ад канавы, якая адлучае вучастак ад заказьніка. Апошняя лічба, часам толькі прыблізная, па прычыне неабходнасьці скарыстаць месца для прамежных пасадак ці пасеваў, а таксама па прычыне мажлівай гібелі некаторых відаў.

ночнай Беларусі і зрэдку ў Паўднёвай. У сярэдніх частках амаль адсутнічае (гл. Пачоскі—флёра Палесься).

*Ціпец модры*—голубая трава (Gramineae—Corynephorus canescens P. B.) 1/4—Палесьсе. Пясчаныя выдмы Зах. Эўропы. 30 *см*—40 *см*.

Расьце на балоце, як і трэба было чакаць, ня цікава, вымакае, вымярзае, але абсемяняецца *).

*Майнік*—майник. Glyceria spectabilis Mert. v. fol. variegatis). 5/9. Брацэва, Маск. губ. Заходн. Эўропа 150. *см*—150 *см*.

Добрая кармовая расьліна для мокрых ці для тых месц, што заліваюцца ўвесну вадою. У мностве расьце на берагох Сьвіслачы і амаль па ўсёй Беларусі. У некаторых мясцовасьцях лічыцца шкоднай травой. Вэтэрынары лічаць, што шкода, якую робіць майнік залежыць ад грыбка, які на ім разьвіваецца. Насельніцтва прыпісвае шкоднае дзеяньне майніка „павучку“. Як відаць, тымпаніты, якія здараюцца пры кармленьні гэтай травой залежыць ад брузаваньня, асабліва моцнага ў прысутнасьці некаторых грыбкоў. Гэтая стракаталісьцёвая раса вельмі дэкорацыйная. Дае многа кармовай масы. Было-б важна ведаць, якаво ўтрыманьне вітамінаў у параўнаньні з зялёнай формай.

*Воцатнік*,—уксусник. (Nyctaginaceae—Oxybaphus nyctagineus S. Wt.) 2/3. Нароўля на Прыпяці. Мэксыка. 100 *см*—100 *см*.

Мэксыканская расьліна, занесеная на берагі Прыпяці (Нароўля). Знойдзена новая яе клейстогамная форма (бяз вяночка з самапылкавальнымі кветкамі). На мінэральным гадавальніку на 3-ці год культуры клейстогамных экзэмпляраў пачалі зьяўляцца венчыкі, на балоце іх ня было пакуль. Акад. Камароў, які вывучае клейстогамію, кажа, што гэта зьява заслугоўвае асаблівай увагі. Прыкветнікі, якія зрасьліся і акружаюць нямногакветкавыя парасончыкі ўтвараюць абгорткі—парашуты, дапамагаючыя распаўсюджваньню насеньня (пладоў). Дэкорацыйная зелень, мясістыя карані.

*Камняломка*—камнеломка моховідная. Saxifragaceae—Saxifraga hypnoides H). 1/2. ВБС. Альпійская вобласьць. 15 *см*—15 *см*.

Паўночная альпійская дзярністая расьліна ўжываецца для ўбіраньня камяністых вучасткаў. Адносіны да эколегічных умоў балота ня высьветлены.

*Тофіэльдыя*—тофиельдия. (Tofieldia calyculata Wahl.). 2/10. Камароўскае балота. Заходн. Эўропа. 40 *см*—27 *см*.

Рэдкая ў нашым Саюзе балотная расьліна; сустракаецца толькі ў заходняй яго частцы на вільготных, падзолістых і забалочвальных лугох.

---

*) Ведаючы, што большасьць балотных расьлін пабудаваны як ксэрофіты (сухалюбы), цікавыя назіраньні, як гэты сапраўдны сухалюб, дапасаваны да пяску, будзе расьці на тарфяной глебе.



## Гадавальнік II (на балотной глебе).

(*Працяг*)

### 2. Расьліны, якія культывуюцца спэцыяльна як садовыя і дэкорацыйныя, для азнаямленьня з імі, размнажэньня і скарыстаньня на практыцы.

Яны могуць быць прадстаўлены наступнымі:

*Званочкі пахучыя*—колокольчики душистые. (Campanulaceae—Adenophora liliifolia L. D. B.). 5/4 Холмеч. Сяр. Эўропа. 1 *м*—яшчэ невядома.

Прыгожая дэкорацыйная шматгадовая расьліна. У лясох і гаёх лесастэпавай паласы і па стэпавых хмызьнякох. У нас рэдка сустракаецца ў прыпойменых лясох Дняпра і ў паўдн. Беларусі.

*Лотаць махровая*—калужница. (Ranunculaceae—Caltha palustris L.). Вялікалетч. сад. Эўропа 30. *см*—30 *см*.

Асобная махровая адмена нізкага росту з буйнымі кветкамі нашай звычайнай лотаці; вельмі дэкорацыйная і здатная для кветня на балотнай глебе.

*Званкі лясныя белыя*—колокольчики лесные белые. (Campanulaceae—Campanula persicifolia L.). Вялікалетч. сад. Эўропа. 1 *м*—*м*.

Прыгожая буйнакветная адмена з кветкамі белага колеру, вельмі дэкорацыйная. Цікава, як будзе расьці на торфе.

*Дзіктам*—ясенец, бадьян. (Caryophyllaceae—Dictamnus fraxinella Pers). 5/8 Вяліклетч. бот. сад. Паўдн. Усходняя Эўропа 1 *м*—30 *см*.

Вядомы дзіктам ці неапалімая купіна. Мае вялікае практычнае ўжываньне для кветняў. На балоце расьце пакуль што дрэнна.

*Крупка паўзучая*—крупка ползучая. (Cruciferae—Draba repens M. B.). 4/1. Курск. губ. Шчыгр. павет. Вялікалетч. бот. сад. Чорназемная паласа 25. *см*—18 *см*.

Цьвіце ад раньняй вясны і да марозаў, пакрываючыся ўвесну вельмі прыгожа скрозь мноствам залаціста-жоўтых кветак, утварае густыя сьветла-зялёныя дзярніны, дзіка расьце ў лесастэпавай паласе і па равох і схілах у чорназемнай мясцовасьці. Жывёла і асабліва авечкі любяць яе зелень. Можа быць скарыстанай, як дэкорацыйная і для пакрыцьця схілаў і раўчукоў. Пакрываючы суцэльнымі дыванамі глебу, выціскае пустазельле.

*Інкарвілея*—Інкарвиллея крупноцветн. (Bignoniaceae—Incarvillea grandiflora Bur). 2/7 Вялікалетн. бот. сад. Кітай. 25 *см*—10 *см*.

Кітайская дэкорацыйная расьліна з мясістымі бульбінамі, для скарыстаньня спажыўных матэрый, у якіх патрэбна хэмічная апрацоўка. На балоце расьце дрэнна, лёгка выгнівае.

*Цьвярдзяк*—вербейник прутяной, твердяк. (Litheriaceae—Lithrum virgatum L.). 2/4 Палесьсе. Сяр. Эўропа. 90 *см*—90 *см*.

Балотная расьліна паўднёвай паловы Беларусі. За межамі ўжываецца для букетаў, а наогул—як дэкарацыйная. Наш больш звычайны від цьвердзяку ці плакуну—трава з больш яскравымі буйнымі кветкамі таксама ўжываецца, і апрача таго ў некаторых мясцох зьяўляецца аблюбаваным народным сродкам ад разваль-неньня страўніка і ў асаблівасьці ад дэзынтэрыі.

*Флёкс*—пламенник. (Polemoniaceae—Phlox hybrida H.). 5/12. Холмеч на Дняпры. Паўн. Амэрыка. 120 *см*—невядома.

Старажытныя адмены амэрыканскага флёксу, якія разводзяцца ў гародчыках беларускіх сялян. Гэтая форма блізкая да дзікіх рас. У садовым гандлі заменена іншымі палепшанымі гібрыдамі. Цікавыя адносіны гэтых дэкарацыйных расьлін да балотнай глебы.

## Гадавальнік II (на бал. глебе).

(*Працяг*)

### 3. Расьліны цікавыя ў сельскагаспадарчых адносінах.

*Каласоўка стракатая*—французский райграс пестрый. (Gramineae—Arrhenatherum elatius M. K. fol. var.). 2/14. Вялікалетч. бот. сад. Віцебск. 1 *м*—150 *см*.

Адзін з лепшых злакаў—які няправільна назыв. фр. райграс. Ярка прыкметная стракаталісьцёвасьць увесну, паступова зьнікае ўлетку. Гэтыя расы было-б важна вывучаць з боку спажыўнасьці. Добра расьце на асушаным балоце.

*Мурожнік вадзяны*—катаброза водяная. (Gramineae—Catabrosa aquatica. P. B.). 3/5. Галоўн. бот. сад. Эўропа. 50 *см*—50 *см*.

Балотная каласьняковая трава для азнаямленьня.

*Валошка лугавая*—васілек луговой. (Compositae—Cantaurea Jacea L.). 6/3. Мясцовая. Эўропа. 110 *см*—115 *см*.

Вядомая лугавая расьліна, раіцца як кармовая, якая дае некалькі ўкосаў. Расьце на балоце выдатна.

*Цытрак страўны*—сыть с'едобная. (Cyperaceae—Cyperus esculentus L.). 1/6. Сельгасп. ак. (Горкі). Эгіпэт. 80 *см*—80 *см*.

Выдатная расьліна, якая гадуецца ў нас звычайна ў аранжэрэях. Расьце на сухіх мясцох і тарфяніку, утварае мноства дробных бульбін. Выведзена зусім трывалая раса. Бульбіны мучністыя, салодкія на смак, ідуць у яду ў вараным і сухім выглядзе, з іх прыгатаўляюць у Гішпаніі пітво оршад, накшталт вадкага мігдалавага малака. З сухіх бульбін—парашок. Дае многа зелені, красуе і можа стаць новай харчовай і кармовай расьлінай. Недахопы цяжкасьць зьбіраньня бульбін, іх дробнасьць і нязручнасьць ачысткі ад глебы.



*Кубкоўка стракатая*—сборная ежа пестрая. (Gramineae—Dactylis glomerata L. v. fol. varigatis.). 2/12. Мясцовая. Эўропа. 150 *см*—150 *см*.

Стракаталісьцёвая адмена кубкоўкі, знойдзенай на балоце (новая форма); патрабуецца спрабаваньне гэтай новай расы з боку яе кармовых якасьцяй.

*Кубкоўка стракатая* (з зял. лісьцем)—сборная ежа пестрая. (Gramineae--Dactylis glomerata L. fol. varieg. viridis.). 2/9. Мясцовая—150 *см*—150 *см*.

Вылучаныя са стракатай расы зялёныя паросткі; назіраюцца праявы альбінізму, кармовая расьліна.

*Мурог тарпяны*—луговик извилистый. (Gramineae—Deschampsia flexuosa Trin). Ленінгр. губ. Ладога. Эўропа. 60 *см*—60 *см*.

Вядомы *мурог тарпяны* або лугавік выгінасты расьце на сухаватых тарфяніках. Дастаўлены з балот каля Ладоскага возера.

*Мурожніца чаротовая*—овсяніца тростниковая. (Gramineae—Festuca arundinacea Schreb.). 7/1. Галоўн. бот. сад. Эўропа. Няма зьвестак—55 *см*.

Добрая кармовая трава. Атрымана з Інстытуту прыкладной батанікі.

*Мурожніца-каласоўнік* — овсяница костровая. (Gramineae—Festuca bromoides (a?). 6/1. Галоўн. бот. сад. Няма зьвестак—55 *см*.

Цікавая кармовая расьліна; нядаўна атрымана з Галоўн. бот. саду для апрабаваньня.

*Мурожніца булаўная*—овсяница булавная. (Gramineae—Festuca clavata (a?). 4/2 Галоўн. бот. сад. Няма зьвестак—55 *см*.

Мяккі і далікатны злак, атрыманы для азнаямленьня і для апрабаваньня на балоце з Галоўн. бот. саду.

*Мурожніца баразённая*—овсяница бороздчатая. (Gramineae—Festuca sulcata Hack). 1/8 Крым (Высоцкі). Паўдзенна-Ўсходняя Эўропа. 50 *см*—50 *см*.

Прывезена з Дзярж. золёг. крымскага заказьніку (Асканія-Нова), добрая кармовая трава, асабліва для авечак Вельмі засушатрывалая, дае добрае дробнае сена, спажыўнае, але цьвёрдае. Вартая для пяскоў, удаецца на асушаным тарфяніку. Дзякуючы шызаму адценьню лісьця і прыгожым дзярнінкам дае дэкарацыйныя бордзюры.

*Жывакост пярэсты* — окопник лекарств. пестрый. (Borragaceae—Symphytum officinale L. fol. aur.). 3/1. Вялікалетч. сад. БДУ. Эўропа. 100 *см*—100 *см*.

Дэкарацыйная, стракаталісьцёвая адмена рэкомэндуемай для сіласаваньня кармовай расьліны, дае многа лістовай масы, патрабуе вывучэньня ў адносінах спажыўнасьці.

*Жывакост лекавы*—окопник лекарственный. (Borragaceae—Symphytum officinale L.). 2/11. БДУ. Эўропа. 100 *см*—100 *см*.

Мясцовая дзікая расьліна, раіцца для сіласаваньня; існуе некалькі блізкіх форм, ужываецца ў народнай мэдыцыне. У апошні час зноў вывучаецца як кармовая.

*Матачнік вялізарны*—подбел гигантский. (Compositae—Petasites giganteus Schmidt.). 1/1 с. Юр'ева, Тв. губ. ВБС. Сахалін, Японія. 2 *м*—150 *см*.

Новая, кармовая для сіласаваньня. Вельмі дэкорацыйная. Раньняя веснавая, меданосная, вельмі карысная ў ляндшафтавым садоўніцтве (удаецца на торфе).

*Матачнік лекавы*—подбел лекарственный. (Compositae—Petasites officinalis. L.—H. S.). ВБС. БДУ. Эўропа Зах. 100 *см*.—100 *см*.

Усе тыя-ж уласьцівасьці, што ў папярэдняй. Зрэдку сустракаецца на Беларусі і яшчэ болей меданосная раньняй вясной.

*Чаротніца жоўта-стракатая*—канареечник тростниковый пестрый. (Gramineae—Phalaris arundinaceae L. (vere) foliis varigatis). 1/9. Віцебск. Эўропа. 150 *см*—150 *см*.

Асобная стракатая раса кармовай травы чаротніцы. Гэтая адмена мае жоўтую стракатасьць, якая зьмяншаецца к восені.

*Чаротніца звычайная беластр. Ладоск.*—канареечник тростн. белоп. Ладожск. (Gramineae—Phalaris arundinacea L. fol. var.). 5/11. Старая Ладога. Эўропа 140 *см*—130 *см*.

Стракаталісьцёвая форма чаротніцы, выяўленая на Ладазе. Гэтая форма мае белую стракатасьць, разьмешчаную пераважна на верхніх лістох, якая асабліва вылучаецца на іхніх перагінах і надае сівае, срэбнае адценьне гэтай траве, якая робіць сваяасаблівы дэкорацыйны эфэкт у ляндшафтавым садоўніцтве.

*Чаротніца звычайная пярэстая моцная*—канареечник белоп. крепкий. (Gramineae—Phalaris arundinacea L. fol. varieg. robusta). 2/15. Вялікалетч. сад. Эўропа. 150 *см*—140 *см*.

(Гл. папярэднюю). Асобная форма беластрак. чаротніцы, у якой зялёная паласа знаходзіцца звычайна пасярэдзіне; стракатасьць не зьмяншаецца к восені. Лісты шырокія, сьцяблы тоўстыя, дае некалькі грубое сена.

*Чаротніца-шоўкавая трава*—канареечник тростн. пестролісты. (Gramineae—Phalaris arundinacea L. fol. varieg. tricolor picta). 3/4. Курск. губ. Эўропа. 125 *см*—120 *см*.

Вядомая стракатая трохколерная форма чаротніцы, якая распаўсюджана ў садох пад назваю шоўкавай травы. Вельмі дэкорацыйная, дае многа далікатнага корму. Цікава вывучыць яе спажыўнасьць у параўнаньні з дзікай зялёнай формай і другімі стракатымі формамі гэтай расьліны, якая яшчэ мала вядома. Белая паласа звычайна пасярэдзіне ліста. Назіраньне на балоце



паказала, што лісты і сьцяблы больш чулыя, чым у іншых адмен, да холаду і пры першых марозах увосень яны абмярзаюць у той час, калі іншыя стракатыя адмены чаротніцы застаюцца зялёнымі.

*Пэрлаўка* — перловник. (Gramineae—Melica species L.). 2/1. Галоўн. бот. саду. Няма зьвестак—20 *см*.

Від пэрлаўкі, прысланы для апрабаваньня з Галоўн. бот. саду СССР.

*Касачы, пеўнікі*—Косач сибирский. (Iridaceae—Iris sibirica, L.). 1/3. БДУ. Эўразія. 115 *см*—110 *см*.

Дэкорацыйная. Заўважана некаторая зьменнасьць афарбоўкі венчыка ў розных форм. Новая кармовая для сырых лугоў і балотных культур. Зьмяняе і перавышае Iris pabularia (ірыс выпасны—вядомая чужаземная кармовая р.).

*Зуброўка*—Ляднік. (Gramineae — Hierochloa odorata Wahl. (an H. australis Room?). 1/14 Скрыгалава, Эўропа. 55 *см*—55 *см*.

Злак, карысны для замацаваньня пяскоў. Ароматычны (кумарын), ужываецца ў гарэлачнай вытворчасьці, добра расьце на культурным балоце.

## Гадавальнік II (на балотнай глебе).

*(Працяг)*

### 4. Расьліны, якія маюць (ці могуць мець) тэхнічнае значэньне і часткова лекавае

*Дзягіль*—дзягиль. (Umbelliferae — Angelica archangelica L.). 2/8 ВБС. Эўр. Беларусь. 150 *см*—140 *см*.

Вядомая ароматычная парасонавая расьліна, звычайна двохгадовая, ужываецца ў консэрвах, варэньнях, у лікернай вытворчасьці (уваходзіць у абсэнт, шартрэз, бэнэдыктын, франц. цукеркі і цукаты). Лекавая пераважна ў народнай мэдыцыне.

*Бавоўнік.*—ваточнік Asclepiadaceae—Asclepias cornuti Dcn (syriaca L.). Decm. 2/5 ВБС, Паўн. Амэрыка. 1 *м*—*см*.

Цікавая расьліна, якая многімі рэкомэндуецца, як маючая практычнае значэньне. Меданосная, прадзільная (лятучкі насеньня—расьлінны шоўк, валокны—для тэкстыльнага матэрыялу) і гуманосная. Апрача таго, яна дэкорацыйная. Дзякуючы лістом і пахучым кветкам, якія маюць уласьцівасьці ўшчамляць ногі ці вусікі шасьціножак, затрымлівае не занадта моцных з іх на некаторы час. Дробныя шасьціножкі часам гінуць, болей буйныя адрываюцца разам з сваяасаблівымі ўтварэньнямі пыльнікоў, за-

бясьпечанымі пылком (полініямі). Апошнія будучы перанесена на другія экзэмпляры робяць крыжавое апылкаваньне. У багатым млечным соку ёсьць гумападобаыя матэрыі (смолы, смолкі і г. д.). На поўдні—сьмяцьцёвая.

*Малачай кіпарысны*—молочай кипарисовый. (Euphorbiaceae—Euphorbia cyparissias L). 1/7. Ваколіцы воз. Белага. Пяскі сяр. эўропы. 60 *см*—55 *см*.

Малачаі гэткія непатрабавальныя, што ня гледзячы на звычайнасьць расьце паважна на сыпучых пяскох. Гэты від досыць добра разьвіваецца і на вільготнай тарфяной глебе. Дасьледваецца адносна тэхнічнай карысьці; дэкорацыйная; у нар. мэдыцыне лекавая (ад вадабаязьні і інш.).

*Малачай бліскучы* — молочай блестащий. (Euphorbiaceae — Euphorbia lucida W. K.). 1/15. Скрыгалава. 2 *м*—120 *см*.

У млечным соку знаходзіцца гума, здабываньне якое паводле прапановы проф. Т. Т. Пяскоўскага можа мець практычнае значэньне. Дасьледваецца ў розных хэмічных лябораторыях. Дэкорацыйная.

*Аўран лекавы (зажмурнік)*—овран лекарственный. (Schophulariaceae—Gratiola officinalis L.). 2/3. Палесьсе. Скрыгалава. Эўропа. 60 *см*—60 *см*.

Лекавая расьліна. Цяпер ёю карыстаюцца толькі ў народнай мэдыцыне. У сярэдняй частцы Саюзу сустракаецца рэдка.

*Мята цытрынавая*—мята лымоннопахучая. (Labiatae—Mentha austriaca Jacq. citriodora Adamow). 5/4. Холмеч. Эўропа. 45 *см* — 25 *см*.

Новая адмена мяты, якая ўтрымоўвае этарны алей з пахам цытрыны. Знойдзена на Віцебшчыне, на Ладазе і ў апошні час на Дняпры каля Холмеч. Сюды на гадавальнік высаджаны невялікі чаранковы экзэмпляр і яшчэ невядома, як ён будзе расьці. Разводзіцца ў Галоўн. бот. садзе ў Ленінградзе, у бот. садох: Вялікалетч. і навук.-паказальным (у Віцебску) і некаторых іншых мясцох.

*Зельлямалочнік ядальны* — фитолакка с'едобная. (Phytolaccaceae—Phytolacca kaempferi A. Gr.). 7/12 БДУ. Японія. 130 *см* — 20 *см*.

Вядзе на балоце мізэрнае існаваньне асабліва ў першы год пасадкі. Орнамэнтальная. Лісты ўжываюцца як гародніна (шпінатная), з сакавітых пладоў вырабляюць атрамант. Мабыць варта як кармовая для сілосу. На балоце расьце дрэнна, хоць для правільнага разьвіцьця патрэбна многа вільгаці. На вельмі сухіх адкрытых месцах удзень вяне.



**Гадавальнік II (на балотнай глебе).**

*(Працяг)*

**5. Расьліны, страўныя ў якасьці гародніны, шпінатныя, салатныя, прысмакавыя, кухенныя травы і інш.**

*Трыбулька*—шнитлук. (Liliaceae—Allium schoenoprasum L). ВБС. Эўропа. 35 *см*—35 *см*.

*Сланэчнік камзічнякавы*—падсолнечник доронниковый. (Compositae—Helianthus doronicoides Lamk. 5/7 H. S.). БВС. Паўн. Амэрыка. 2 *м*—2 *м*.

Новая і мала вядомая кораньплодная расьліна, падобная на топінамбур, зьяўляецца кармовым і гароднінным, вытрымлівае большыя колькасьці вільгаці, чым земляная груша. Гэтыя абодвы віды ўжываюцца ў паляўнічых парках для прынады рознай дзічыны.

*Топінамбур, бульва* — топинамбур, земляная груша. (Compositae—Helianthus tuberosus L). 3/6 Менск. Паўн. Амэрыка. 2 *м*—2 *м*.

Вядомы бульбінаплод родам з Амэрыкі. Раней служыў толькі як смачная і спажыўная гародніна і ўжываўся на кухні далікатных страў. Гадоў 50 таму назад пачалі скарыстоўваць як кармовую расьліну, якая ва ўмовах спажыўнай пухкай глебы зьявілася вельмі карыснай і рэнтабэльнай. У бульбінах многа спажыўных матэрык (інулін, цукер), а надземныя часткі пры скошваньні даюць спажыўны корм у сьвежым, сухім і сілосаваным выглядзе. Бывае некалькі ўкосаў: пасаджаны пры добрых умовах захоўваецца на адным месцы гадоў 10. Вытрымлівае любыя марозы і не патрабуе ўцяпленьня склепаў. Можна раіць як у вышэйшай ступені карысную расьліну для асушанага балота, бо на торфе разьвіваецца выдатна, догляд у культуры вельмі лёгкі, садзейнічае барацьбе з пустазельлем, павялічвае малочнасьць у кароў пры скармліваньні.

*Сухадрэўка страўная*—жымолость с'едобная. (Caprifoliaceae—Lonicera edulis Rgl.). 2/2 ВБС. БДУ. Камчатка. 1 *м*—80 *см*.

Расьліна, увезеная ак. Камаравым з Камчаткі. Добра расьце на торфе. Часам ужо ў канцы мая дае смачныя плады, ка лі яшчэ няма ніякіх ягад. Выглядам яны нагадваюць чарніцы. Заслугоўвае распаўсюджаньня.

*Пімпрынэля*—бедренец пимпинеля. (Rosaceae—Peterium sanguisolba L.). 6/2 Вялікалетч. сад. Паўдн. Заходняя Эўропа. 50 *см*—45 *см*.

*Мамура, паляніка*—мамура, поляника. (Rosaceae—Rubus arcticus L.). 1/13. Цьвяр. губ. ВБС. Паўн. Расія. 30 *см*—30 *см*.

Нізкі паўкустарнік з ружовымі кветкамі і пладамі пахучымі ананасам. Балотная расьліна, якая дапасавалася ў нас і да сухіх стаянак. На поўначы прадмет гандлю. З яе атрымліваецца вядомы швэдзкі пунш і варэньне.

*Марошка*—морошка. (Rosaceaceae — Rubus chamaemorus L.). 3/10 Цьвярск. губ. Ладага. Паўночн. Расія. 40 *см*—20 *см*.

Вядомая балотная расьліна, якая расьце ў вобласьці тундраў, але сустракаецца трохі больш на поўдзень, дзе пладаносіць рэдка і няправільна, з цяжкасьцю паддаецца культуры, дрэнна пераносіць перасадку. Нашы пасадкі на Беларусі да гэтага часу былі няўдалыя. Гэтыя экзэмпляры прывезены з берагоў Ладаскага возера ў 1928 г. Мажліва, што недахоп кіслотнасьці тарфяніка перашкаджае яе нормальнаму разьвіцьцю. Частку экзэмпляраў варта паліваць растворам галыну для падкісьленьня глебы.

*Касьцяніка кітайская*—маліна кітайская. (Rosaceae—Rubus xanthocarpus Bur.) 3/3 ВБС. Кітай. 50 *см*—35 *см*.

Адмярзаючы паўхмызьняк, які дае страўныя жоўтыя плады. Удаецца добра ў нашым клімаце. Недахопы: слабая ўраджайнасьць. Назіраньняў на балоце яшчэ зусім мала.



## РАЗЬДЗЕЛ III.

### III. Дэндролёгічны гадавальнік.

Трэцім гадавальнікам Балотнае станцыі зьяўляецца Дэндролёгічны гадавальнік, які знаходзіцца на краі балота на мінэральнай глебе, закладзены пяць год назад (у 1925 г.) проф. Высоцкім і дэндролёгам Георгіеўскім.



Гадавальнік III (дэндролёгічны)

Ніжэй зьмешчаны пералік галоўных парод, якія знаходзяцца ў ім.

Гэты сьпіс складзены ў 1930 г. лесаводам І. І. Собалевым. Нумарацыя ідзе ад паўночнага захаду да паўднёвага ўсходу. Рады складаюцца з градак-дзялянак і радкоў. Пералік як тых, так і другіх, з поўначы да паўдня. Рымскія цыфры—пералік радоў, арабскія—нумарацыя градак; цыфры ў дужках—нумарацыя радкоў. Пачаткам лічыцца правы бліжэйшы ад галоўнага ўваходу вугол гадавальніку ля хаткі. На градках-дзялянках, таксама як і ў радкох, паасобныя віды і экзэмпляры асобнай нумарацыі ня маюць, і іх разьмеркаваньне бачна на падрабязным пляне і на месцы. Тут паказана схэма-рысунак, якая растлумачвае разьмеркаваньне градак і радкоў. У сьпісу назвы ідуць у альфабэтным парадку (лацін.).

*Увага*: направа ад галоўнага ўваходу, паміж гэткім і хаткай, таксама як і вакол агарожы ёсьць дадатковыя насаджэньні. У пачатку V раду ёсьць дадатковая градка (бліжэй да плоту). Там, дзе па ўзросту сеянцаў ня было магчымасьці праверыць назвы, дык гэткая пакідалася за імі тая, пад якой было атрымана насеньне.

## Сьпіс дрэўных і хмызьняковых парод, якія ёсьць у дэндролёгічным гадавальніку цэнтральнае Менскае балотнае станцыі.

| № № | Беларуская назва | Навуковая лацінская назва | Ботанічнае сямейства | Рады (рымс. цыфр,) Градкі (араб. цыфр.) Радкі (араб. цфр. у дужках) |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Ельніца бальзамная. | Abies balsamea L. | Conif. | III.6. |
| 2 | Ельніца манджурская | Abies nephrolepisMax. | Conif. | III.6. I.5. |
| 3 | Паклёнак. | Acer campestre L. | Acerae. | I.2, II, 18, 19 |
| 4 | Клён сібірскі гіналя. | Acer ginala, Max. | „ | III, 22, V, (24-26) |
| 5 | Клён. віргінскі. | Acer negundo L. | „ | I, 2, II, 15. V, (30-34) |
| 6 | Клён пэнсільванскі. | Acer pensylvanicum, L. | „ | III, 21, V, (29-40), |
| 7 | Клён Лёрбэрга, | Acer platanoides Lorbergi Hort. | „ | V, 4. |
| 8 | Явар (клён польскі) | Acer pseudoplatanus, L | „ | I, 2, VI, (26-31) V, (2-15) (25-26) |
| 9 | Клён Сямёнава. | Acer semenovi Rgl. | „ | I. 5 |
| 10 | Клён татарскі (няклён) | Acer tataricum L. | „ | I, 7. |
| 11 | Клён Траўтфэтэра. | Acer troutvetteri Medv. | „ | II, 2, |
| 12 | Клён укурундунскі. | Acer ucurunduense (a. d.) | „ | II, 5 |
| 13 | Каштан конскі. | Aesculus hippocastanum, L. | | I, 1 |
| 14 | Аморфа хмызьняковая | Amorpha fraticosa L. | Papilionac. | V (39-44) |
| 15 | Аралья манджурская. | Aralia mandschurica (a. d.) Hort. | | I, I |
| 16 | Барбарыс звычайны. | Berberis vulgaris L. | Berberid. | V, 12, 13, 14 |
| 17 | Барбарыс чырвоналісьцёвы. | Berberis atropurpurea Hort. | | V, 4 |
| 18 | Бяроза грабавая. | Betula lenta L. | Betulac. | V, I |
| 19 | Бяроза папяровая. | Betula papyracea Ait. | „ | V, 23 |
| 20 | Акацыя жоўтая. | Caragana arborescens Lam. | Papilion. | V, 10, II. |
| 21 | Чыліга кустовая (чапыжнік). | Caragana frutex R. Koch. | | V, 4, УІ, (I, 2) |



| № № | Беларуская назва | Навуковая лацінская назва | Ботанічнае сямейства | Рады (рымс. цыфр.) Градкі (араб. цыфр.) Радкі (араб. цфр. у душках) |
|---|---|---|---|---|
| 22 | Грабіна. | Carpinus betulus L. | | I, I |
| 23 | Катальпа вялікалісьцёвая. | Catalpa speciosa Ward. | Bignoniac. | II. I, V, 6 |
| 24 | Карыя белая (Пакан). | Carya alba Nutt. | Jugland. | III, 3, V, 2 |
| 25 | Пакан махнаты. | Carya tomentosa Nutt. | „ | V, 2 |
| 26 | Цэрцыс. Дрэва юдаша, Канадзкая | Cercis canadensis L. | Pap.. | II, 5 |
| 27 | Пузырніца кустовая. | Colutea arborescens L. | | V, 2 |
| 28 | Сьвідзіна белая | Cornus alba L. | Corn. | I, 14, III, 16 |
| 29 | Сьвідзіна стракатая. | Cornus alba L. fol. albomarginatis | Corn. | III, 16 |
| 30 | Сьвідзіна чипэта. | Cornusalba L. Späthi fol. aureovarieg. | Corn. | III, 6 |
| 31 | Глог аднасемянны. | Crataegus monogyna Jacq. | | V, (31-38) |
| 32 | Глог кропкавы. | Crataegus punctata Jacq. | Pomaceae. | I, 5 |
| 33 | Глог сібірскі. | Crataegus sanguinea Pall. | „ | V, 7 |
| 34 | Зяновец вялікі. | Cytisus laburnum L. | Papilion. | V, (I, 2, 3,) |
| 35 | Зяновец душысты. | Cytisus nigricans L. | „ | I, 5, V, 6 |
| 36 | Хурма віргінская. | Diospyros virginiana L | | II, 14 |
| 37 | Лох вузкалісьцёвы. | Elaeagnus angustifolia L. | Eleagn. | У, a (I.) дадатковая градка |
| 38 | Бруcкаліна эўропэйская. | Evonymus europaeus L. | | I. 3 |
| 39 | Брускаліна звычайная. | Evonymus verrucosus Scop. | | I, 3 |
| 40 | Форсытыя зялёная. | Forsythia viridissima, Lind. | Oleac. | III. 4 |

| №№ | Беларуская назва | Навуковая лацінская назва | Батанічнае сямейства | Рады (рымс. цыфр.) Градкі (араб. цыфр.) Радкі (араб. цфр. у дужках) |
|---|---|---|---|---|
| 41 | Ясен амэрыканскі. | Fraxiuus americana L. | Oleac. | У, 4, (17-20) |
| 42 | Ясен звычайны. | Fraxinus excelsior L. | | I,I IV, (I-12) VI, (9-24) |
| 43 | Ясен манджурскі. | Fraxinus mandschurica, Rpr. | | I, 2 |
| 44 | Гледзічыя трохкалючкавая. (Ерусалімскі цёрн. | Gleditschia triacanthos L. | Caesalpinac. | II. 3, III. 3 |
| 45 | Абляпіха. | Hippophaė rhamnoides, L. | Eleagn. | VI, (4, 5) |
| 46 | Арэх шэры. | Juglans cinerea L. | Julgand. | II, (2, II) III. 18 |
| 47 | Арэх сэрцалісьцёвы. | Juglans cordiformis Max. | » | II. 4 |
| 48 | Арэх чорны. | Juglans nigra L. | » | II, 21, III. 19 |
| 49 | Арэх грэцкі. | Juglans regia, L. | » | II. 6, II, III. 18 |
| 50 | Яловец. | Juniperus communis L. pyramidalis Ladog. | | паблізу дома |
| 51 | Яловец кіпарысавы. | Jnniperus pseudocupressus Dieck | | ля паркану паблізу дома |
| 52 | Біручына. | Ligustrum vulgare L. | Oleaceae. | ля паркану V. 3 |
| 53 | Бружмень альбэртава. | Lfnicera alberti Rgl. | Caprifoliac. | паблізу дома ля паркану |
| 54 | Бружмень татарскі. | Lonicera tatarica L. | » | V, 14, VI. 8 |
| 55 | Бружмень звычайны. | Lonicera xylosteum. L. | » | I, 3 |
| 56 | Бружмень. | Lonicera xylosteum L. | | VI, 7 |
| 57 | Морва белая. | Morus alba, L. | Moraac. | паблізу ўваходу |
| 58 | Магнолія востралістая. | Magnolia acuminata L. | | II. 2, VI. 6 II. 4 |
| 59 | Пробкавае дрэва—бархат (аксамітнае дрэва). | Phellodendron amurense Rupr. | | I. 4, V. 27 |



| №№ | Беларуская назва | Навуковая лацінская назва | Батанічнае сямейства | Рады (рымск. цыфр.). Градкі (арабск. цыфр.). Радкі (арабск. цыфр. у дужках) |
|---|---|---|---|---|
| 60 | Пузыраплоднік (пузырнік) калінавы. | Physocarpus opulifolius, Max. | | I. 4, V. 7, 8 |
| 61 | Елка аянская. | Picea ajanensis Fisch | Coon. | III. 5 |
| 62 | Елка звычайная. | Picea exelsa L. | » | IV. 6 |
| 63 | Елка сібірская. | Picea obovata Lab. | » | V. I |
| 64 | Хвоя пясочная. | Pinus banksiana | Conij. | V. I, 2 |
| 65 | Хвоя пэўцэ (Балканская). | Pinus peuce Gros. | » | V. I |
| 66 | Хвоя цяжкая. | Pinus ponderosa Dougl. | » | V. I |
| 67 | Хвоя цяжкая горная. | Pinus ponderosa Dgl. var. scopulorum Engelm. | » | V. I |
| 68 | Хвоя ніцая (кедроўнік ніцы). | Pinus pumila Rgl. | » | III. 3 |
| 69 | Хвоя Ваймутава. | Pinus strobus L. | » | III. 2 |
| 70 | Хвоя звычайная. | Pinus silvestris L. | » | IV. I-6 |
| 71 | Таполя белая. | Populus alba L. | Salic. | IV. 9, 13, 14 |
| 72 | Таполя бальзамічная. | Populus balsamifera L. | » | IV, (9), (35-37) |
| 73 | Таполя канадзкая. | Populus canadensis Desf | » | I. I, 3, 5, 8-16, 24, 25, 26, 27, 28, 29, 30, 31, 32, 33, 34, 35, 36, 37, 38, 39 |
| 74 | » » | » | » | III. 8, 9, 10, 11, 12, 13 |
| 75 | » » | » | » | IV. 9 (15-26) |
| 76 | Таполя канадзкая пярэсталісьцёвая. | Populus canadensis Desf. fol. varieg. inv. Czanyszew. | | II, 15 (у праходзе) |
| 77 | Таполя буйналісьцёвая | Populus candicans Ait. | | IV, 9, 8 |
| 78 | Таполя лаўровая | Populus laurifolia Ldb. | » | IV. 9 |
| 79 | Ясакар | Populus nigra L. | » | IV (27-34) |

| №№ | Беларуская назва | Навуковая лацінская назва | Батанічныя сямейства | Рады (рымск. цыфр.). Градкі (араб. цыфр.). Радкі (арабск. цыфр. у дужках) |
|---|---|---|---|---|
| 80 | Таполя пірамідальная | Populus pyramidalis, Spach. | Salic. | IV (38-42) |
| 81 | Таполя кітайская | Populus simoni Carr. | " | I. (10), (II). IV. 9. |
| 82 | Таполя душыстая | Populus snaveolens, Fisch. | " | I. (7). (14-23), (43-47; 55) |
| 83 | Вішня звычайная | Prunus cerasus L. | Rosaceae. | IV. 9, V. 45 II, 4 |
| 84 | Кажанка трохлісьцёвая | Ptelea trifoliata L. | Rutac. | II. 20, III. 19 |
| 85 | Птэракарыя каўкаская | Pterocarya caucasica Mey. | Juglandc. | V (28) |
| 86 | Дуб мангольскі | Quercus mongolica, Fich. | Fagaceae. | II, 13, III. 17 |
| 87 | Дуб звычайны | Quercus pedunculata, Ehrh. | " | I. I |
| 88 | Дуб чырвоны | Quercus rubra L. | " | V. 16 |
| 89 | Жасьцёр звычайны | Rhamnus cathartica L. | Rham. | V. 4 |
| 90 | Крушына даўурская | Rhaumus dahurica Pall. | | I. 4 |
| 91 | Жоўтнік | Rhus cotinus L. | Anacardiac. | II. 6 |
| 92 | Парэчка крывавая | Ribes sauguineum Prsh. | Saxifr. | II. 6 |
| 93 | Шыпшына звычайная | Rosa canina L. | Rosaceae. | I. 5,1. 6 |
| 94 | Шыпшына буйнакветкавая | Rosa rugosa Thnb. | " | I. 5 |
| 95 | Вярба серабрыстая | Salix alba, L. | Salic. | I. (2) |
| 96 | Вярба белая, гіокая | Salix alba×vitellina, Hort. | | IV. (48-54) |
| 97 | Вярба плакучая | Salix alba×vitellina, Hort, pendula. | | I. 15 |
| 98 | Лаза францускаяя | Salix incana, Mchx. | | IV. 52 |
| 99 | Лаза даўгалісьцёвая | Salix longifolia. Hort. L. W. | | I. 12 |



| №№ | Беларуская назва | Навуковая лацінская назва | Батанічнае сямейства | Рады (рымск. цыфр.). Градкі (араб. цыфр.). Радкі (арабск. цыфр. у дужках) |
|---|---|---|---|---|
| 100 | Лаза чырвоная | Salix purpurea L. | | I. 12, 13, 14 |
| 101 | Лаза ўральская | Salix purpurea L. uralensis, Hort. | | I. 8, 9. 10, 15 |
| 102 | Лаза карысная | Salix purpurea L. utillissima, Hort. | | I. 10, 11, 12 |
| 103 | Лаза кошавая | Salix viminalis L. | | I. 8 |
| 104 | Бэз канадзкі | Sambucus canadensis, L. | Caprijoliae. | II. 2 |
| 105 | Бэз чорны | Sambucus nigra L. | | I. 4, V. 7 |
| 106 | Бэз чырвоны | Sambucus racemosa, L. | | V, 7 |
| 107 | Зяновец венічны | Sarothamnus scoparius. Wntm. | Papil. | III. 22 |
| 108 | Рабіна гібрыдная | Sorbus hybrida L. | Rosaceae. | I. 3 |
| 109 | Шпірэй белы высокі | Spiraea alba, Dur. | " | III. 4, 5 |
| 110 | Шпірэй шматкветкавы | Spiraca arguta, Hort. | " | III. 4 |
| 111 | Сініль амурская | Syringa amurensis, Rupr. | Oleac- | II. 10, II |
| 112 | Сініль звычайная | Syringa vulgaris L. | " | У, 4 |
| 113 | Туя вялікая | Thuja gigantea, Carr. | Conij. | III. 6 |
| 114 | Туя заходняя | Thuja occidentalis L. | " | III. 7 |
| 115 | Ліпа амурская | Tilia amurensis (A. I.) | Tiliae. | II. 7, 9 |
| 116 | Ліпа звычайная | Tilia parvifolia Ehrh. | | I |
| 117 | Цуга канадзкая | Tsuga canadensis, Carr. | Conij. | II. 6 |
| 118 | Лём горны | Ulmus montana, Bauhin. | Vimac. | I. 7 |
| 119 | Вяз звычайны | Ulmus effusa, Willd. | " | У. 9. 10 |

| №№ | Беларуская назва | Навуковая лацінская назва | Батанічнае сямейства | Рады (рымск. цыфр.). Градкі (араб. цыфр.). Радкі (арабск. цыфр. у дужках) |
|---|---|---|---|---|
| 120 | Гардовіна | Viburnum lantana L. | | V. 5 |
| 121 | Гардовіна амэрыканск. | Viburnum lentago L. | Caprijol. | I. 3 |
| 122 | Вінаград амурскі | Vitris amurensis, Rpr. | Ampelidac. | I. I, II. 4, 5, 6 |
| 123 | Дзельква зубчатая | Zelkowa crenata Spach. | Ulmac. | I. 6 |
| | **Д а д а т а к** | | | |
| 124 | Лём амэрык. | Ulmus sp. (?) americana (?) | Ulmac. | ля паркану |
| 125 | Дуб звыч. | Quercus pedunculata Ehr. var. | Fagaceae. | |

У дадатак да гэтага сьпісу можна яшчэ спамянуць выведзеныя ў гэтым гадавальніку (або знойдзеныя) наступныя новыя, а таксама і рэдкія расьліны:

Дрэўныя: Jumiperus pseudocupressus, Dieck.

(выведзена са зразку) } Acer. tataricum, L. jol. vau.
(выведзена засевам) }

Травяністыя: Populus canadensis, L. fol. var.

(гл. Адамаў: „Краткий обзор растений некоторых районов белорусского Полесья.“ Стр. 10 № 8. Brunella sp., Campanula glomerata L. fl.albo.



## РАЗЬДЗЕЛ IV.

### IV. Апісаньне іншых гадавальнікаў і жывых насаджэньняў (балотна-мэліорацыйнага аддзелу выстаўкі) Цэнтральнае балотнае станцыі.

1. Маленькі дрэўны гадавальнік (VI), што знаходзіцца на тарфянішчы і абмежаваны з двух бакоў лясныймі хмызьнякамі, складаецца з невялікае колькасьці саджанцаў дрэўных і хмызьняковых парод, высаджаных у шчыльным дрэванасаджэньні дэндролёгам С. І. Георгіеўскім па заданьні проф. Высоцкага.

У гэтым гадавальніку можна наглядаць узаемны ўплыў на балоце некаторых дрэўных парод і як рэагуюць гэтыя ўмовы на паасобныя віды, а таксама і іх біолёгічныя асаблівасьці. Тут можна наглядаць некаторыя формы зьмяненьня лісьця (падлінэньне і паменшаньне ў Populus alba, L.), і цікавыя, прывезеныя з берагоў Ладаскага возера (у басэйне Волхава), пераходныя формы бяроз (Betula intermedia) і г. д.

2. Ёсьць яшчэ і гадавальнікі палявыхілугавых кармовых расьлін. Сярод іх цікавы дасьледчыя гадавальнікі лугавых і некаторых бабовых расьлін, дзе гэтыя расьліны вывучаюцца з мэтаю іх сельска-гаспадарчага скарыстаньня.

Тут-жа на Камароўскім балоце знаходзіцца даволі багаты колекцыйны гадавальнік кармовых і бабовых расьлін (V).

3. На культурных палёх тарфянішча можна бачыць пачатае ў гэтым годзе размножаньне некаторых сілосных, кораньплодных, а таксама і некаторых тэхнічных культур (тапінамбур 2 віды, бадан—гарбоўнае, і іншае).

4. Там-жа ёсьць невялікія насаджэньні пладовых дрэў, дзе гатункі яблынь вывучаюцца ў мэтах выяўленьня магчымасьці іх разьвядзеньня ва ўмовах балотнае глебы.

Закладзены пладовы сад (як матачнік) для вывучэньня фізыка-географічных абставін для гатункаў, выведзеных вядомым орыгінатарам з РСФСР Мічурыным І. В. Гэты сад знаходзіцца на краі балота на падзоліста-мінэральнай глебе і ў ім налічваецца некалькі дзесяткаў гатункаў.

Разводзяцца і ягадныя культуры як хмызьняковыя, так і травяністыя. З ягадных культур варта памянуць значныя плошчы, занятыя малінай і трускаўкамі, якія прыносяць ужо добры даход. Ёсьць таксама дасьледчы і сортавыпрабавальны гадавальнік для некаторых разнавіднасьцяй гэтых расьлін. Разводзяцца, апроч маліны і трускавак, яшчэ парэчкі, агрэст, сьліва і іншыя, якія вывучаюцца ва ўмовах балотнае гаспадаркі.

5. Асабліва цікава батанічная работа, якая праводзіцца ў вучэбна-паказальным батаніка-эколёгічным садзе балотнае станцыі. Сад гэты знаходзіцца ў натуральным хмызьняку, на краі Камароўскага балота. Тут, на невялікім вучастку, сустракаюцца амаль усе найбольш цікавыя і характарныя расьліны мясцовае флоры ў натуральных абставінах. Пад групамі хвой травяністая расьліннасьць складае сабою фрагмент асоцыяцыі, дзе сустракаюцца, мяжуючыся невялічкімі фацыямі з паступовымі паміж імі пераходамі, згуртаваньні, якія даюць навочнае ўяўленьне аб галоўнейшых расьлінных групоўках, значна пашыраных у нашым краі.

---



РАЗЬДЗЕЛ V.

## V. Колекцыя Вялікалетчанскага батанічнага саду катэдры батанікі Беларускае акадэміі навук.

Сярод натуральнае флоры высаджаны і некаторыя іншыя расьліны, што маюць для нас тую ці іншую цікавасьць. Тут-жа часова высаджана колекцыя расьлін Беларускай акадэміі навук, прывезеная сюды з Вялікалетчанскага батанічнага саду акадэміі навук, які знаходзіцца паблізу Віцебска. Колекцыі гэтага саду ў будучым будуць перанесены ў Цэнтральны батанічны сад, што організуецца у Менску.




Схэма пасадак калекц. Вялікалетч. саду

У гэту колекцыю ўвайшла значная колькасьць новых расьлін, знойдзеных за апошні час пры вывучэньні беларускае флёры. Сярод іх ёсьць расьліны, якія яшчэ нідзе не апісаны, галоўным чынам новыя альбініруючыя мутанты.

Гэтыя расьліны, уваходзячыя ў колекцыю, перавезеную сёлета ўлетку з Вялікалетчанскага саду, пералічаны ў наступным сьпісу:

**Сьпіс відаў, што складаюць частку колекцыі Вялікалетчанскага саду БАН, перасаджаную ў батанічны сад Балотнае станцыі ў чэрвені 1930 г.**

Назвы пералічаны ў парадку іх перасаджваньня.

За некаторымі выключэньнямі пры перасаджваньні, расьліны разьмяркованы ў мэтах больш лёгкага іх знаходжаньня прыблізна ў альфабэтным парадку.

1. Achillea grandiflora Bieb.—Крываўнік буйнакветны.
2. Aconitum lycoctonum L.—Мардоўнік воўкавы.
3. Aconitum septentrionale Kölle.—Маркоўнік паўночны.
4. Agrimonia eupatoria L.—Дзядкі звычайныя.
5. Allium albidum Hort.—Цыбуля белеватая.
6. Allium globosum Hort.— „ кулістая.
7. Allium schoenoprasum L.—Цыбуля трыбулька.
8. Anchusa incarnata Hort.—Пакрывец чырвонавы.
9. Anchusa officinalis L.— „ лекавы.
10. Anchusa sempervirens L. „ стала-зялёны.
11. Anemone robinsoniana. Hort.—Курасьлеп блакітны.
12. Anthemis rigescens Hort.—Пупок цьвярдзючы.
13. Armeria maritima.—L. Армэрыя прыморская.
14. Asperula molluginoidesa—Дзёрачка марунавая.
15. Carduus nutans L.—Дзядоўнік падсілы.
16. Cenolophium fischeri Koch—Клявешчына Фішэра.
17. Chelone americana Hort.—Хэлёна амэрыканская.
18. Chrysanthemum maximum Ram.—Крыжант вялікі.
19. Cirsium canum , M. B,—Дзед сівы.
20. Clematis integrifolia L.—Падвойнік цэлалісьцёвы.
21. Convallaria majalis. L. fl. plen.—Ландтуш майскі, махровы.
22. Kannuculus lanuginosus L.—Казялец лахматы, махровы.
23. Dianthus hispanicus Hort.—Іскаркі гішпанскія.
24. Dipsacus laciniatus L.—Паўсоніца разрэзналісьцёвая.
25. Echium rubrum L.—Мядоўнік чырвоны.
26. Eupatorium cannabinum L.—Рэпнік (ці пасконьнік) канапляны.
27. Eupatorium purpureum L.—Рэпнік пурпурны.
28. Falcaria vulgaris Bernh.—Серпнік праўдзівы.
29. Galium rubioides (есентукі) L.—Маруна буйная.
30. Geranium pratense fl. pleno.—Герань лугавая, белая.
31. Geranium silvaticum fl. pallido, L.—Герань лесавая, белая.
32. Heracleum vilosum Fisch.—Баршчэўнік калматы.
33. Hotteia japonica Hort.—Готэн японская.
34. Iris graminea L.—Касаr вузкалісьцёвы.
35. „ spuria L.—Касач фальшывы.
36. „ pumila I i II, L.—Касач ніцы.
37. „ bludowi Ledeb.—Касач Блудава.
38. „ bohemica F. Schidt.—Касач богемскі.
39. „ desertorum (Vilm.) Ker.?—Касач пустынны.
40. „ furcata M. B.—Касач вільчаты.



41. Iris germanica, L. v. golden chain. — германскі залаты ланцуг.
42. „ germauica L.—Касач германскі садовы.
43. „ germanica L.—Касач германскі.
44. „ germanica L. v. Agathe—Касач Агата.
45. „ germanica L. v. Arnols.—Касач Арнольс.
46. „ germanica L. v. Contraste.—Касач Контраст.
47. „ germanica L. v. Fénélon—Касач германскі фенелон.
48. „ germanica L. v. Meyer.—Касач германскі Майер.
49. „ germanica L. v. Virginie.—Касач германскі Віргінія.
50. „ Gueldenstaedtiana Lepech I.—Касач Гюльдэнштэдта I.
51. „ „ „ II.— „ „ II.
52. „ Koreana Rgl.—Касач Корэйскі.
53. „ sibirica L.—Касач Сібірскі.
54. „ „ atroviolacea.—Касач Сібірскі цёмны.
55. „ tripetala Walt. I.—Касач Сібірскі трохпялёсткавы.
56. „ „ „ II.—Касач балотны.
57. „ pseudacorus L.—Касач балотны.
58. Isatis tinctoria L.—Вайда фарбоўная.
59. Laserpitium hispidum M. B.—Лязарпіцыум шаршавы.
60. Lathyrus tuberosus L.—Чына бульбястая.
61. Libanotis montana All.—Лібаноціс.
62. Linaria genistifolia Mill.—Зарніца баравая.
63. Pl. indeterm.
64. Lysimachia punctata L.—Лазоўка.
65. Mulgedium tataricum (L) D. C.—Сінька татарская.
66. Muscari racemosus Mill.—Мышнік кіевцовы.
67. Nepeta grandiflora M. B.—Котоўній буйнакветны.
68. Notoscordon fragrans (Went)?—Нотоскордон пахучы.
69. Phlomis tuberosa L.—Флёміс бульбяны.
70. Phox subulata L.—Флёкс ніцы.
71. Picris hieracioides L.—Гарчоўка.
72. Podophyllum emodi Willd. I.—Подофілюм Эмодзі I.
73. „ „ „ II. „ II.
74. Polygonatum multiflorum (L.) All. I.—Купена шматкветкавая I.
75. „ „ „ II.—Купена шматкветкавая.
76. Potentilla hybrida (auct. ign.).—Лапчатка гібрыдная.

Канец насаджэньняў на правым баку галоўнай дарожкі. Нумарацыя пераходзіць на левы бок галоўнай дарожкі і працягваецца ад перакрыжаваньня.

77. Artemisia vulgaris L. angustisecta — Чарнобель вузкалісьцёвы.
78. Crocus vernus L.—Шафран веснавы.
79. Dianthus hybridus Hort. Letc. Wielk. Adam.—Іскарка гібрыдная лятчанская.
80. Funkia alba Sw.—Функія белая.
81. „ japonica Horv. virida marginata-F. ovata Sp. agl. discolor. — Функія лянцэтная.
82. „ lancifolia Sprgl. hybr.? — „ вузкалісьцёвая.
83. „ „ Sprgl.—Функія вузкалісьцёвая.
84. „ „ „ albolineata-F. undulata Hart.—Функія белапалосая.
85. „ gigantea (auct i) i F. sieboldiana, Hort. (an. v. Fortunei si fl. alb. an typ. si fl. coer. — Функія буйнакветкавая.
86. „ ovata Sprgl. albomarginata.—Функія яйкаватая.
87. Geranium sanguineum L. fl. albo.—Герань баравая, белая.
88. Hemerocallis fulva L. fl. pleno, fol. var.— Гэмэракаліс японская.
89. Mentha austriaca Jacq. v. citriodora, Adamovi.—Мята лімонная.
90. Potentilla repens L.—Лапчатка паўзучая.
91. Poterium sanguisorba L.—Пімпінель.
92. Ranunculus acer L. flore pleno (sirecte)—Казялец махровы.
93. Rubus xanthocarpus Bur. et Franch.—Маліна кітайская.
94. Sanguisorba officinalis L.—Кравахлёбка.
95. „ sericea Hort.— „ шэрая.
96. „ tenuifolia auct. d.—Кравахлёбка тонкая.
97. Saxifraga caespitosa Hort.—Камняломка малая.
98. Scrophularia divaricata Ledeb.—Нарычнік расьпяляны.
99. Sedum album L. (S. l.).—Ачытак белы.
100. „ rodiola D. C. (linifolium)—Ачытак рожачка.
101. „ sieboldi Sweet.—Ачытак кітайскі.
102. Serratula coronata L.—Сярпуха вялікая.
103. Silene fimbriata Sims.—Ляскатуха бахромчатая.
104. „ tatarica Pers.— „ татарская.
105. Stenactis speciosa (Lindb.) D. C.)—Стэнакціс асобная.
106. Helianthus doronicoides Lam.—Бульва даўгая.
107. „ tuberosus L.—Бульва круглая.
108. Urtica cannabina L.—Крапіва канапляная.
109. Verbascum pyramidatum M. B.—Дзіванка пірамідальная.
110. Vinca minor L.—Вінка малая. Барвінак малы.
(нумарацыя пераходзіць на правы бок пабочнай дарожкі ад перакрыжаваньня.



111. Diantus barbatus fol. var. proles № 1.—Іскарка турэцкая новая.
112. Glechoma hederacium L. (fol var. Hort.).—Будра стракалісьцёвая.
113. Lotus ulginosus Willd.—Рутвіца балотная.
114. Lychnis praseusis Spreng. (tol. var. Doron.—Сьветнік лугавы пярэсты **новы.**
115. Pimpinella saxifraga L. fol. var. № 161—1928.—Бядрынец стракаты I **нов.**
116. Pimpinella saxifraga L. fol. var. № 87—1928.—Бядрынец стракаты II „
117. Pimpinella saxifraga L. fol. var. № 66—1927.—Бядрынец стракаты III „
118. Phlox hybrida Hort. fol. var. (Orleans?).—Флёкс гібрыдны стракаты.
119. Poa palustris L. fol. var. (?)—Мятліца балотная стракатая **нов.**
120. Poa nemoralis L. fol. var. (?)—Мятліца лясавая „ **нов.**
121. Phleum pratense L. fol. var. № 48 (Szuman) Doron.—Цімафейка стракатая **нов.**
122. Plantago major L. fol. var. № 69 Doron.—Трыпутнік большы стракаты **новы.**
123. Rubus saxatilis L. fol. var. Dor.—Касьцянка стракатая **нов.**
124. „ idaeus L. fol. var. Dor.—Маліна стракатая **нов.**
125. Spirea callosa Lindl.-S, japonica L.—Сьпірэя цьвёрдая **нов.**
126. Thymus serpyllum L. fol. var. Doron.—Чабор стракаты „
127. Urtica dioca L. fol. var. Doron—Чарніца стракатая **нов.**
128. Vaccinium myrtillus L. fol. var. Dor.—Чарніца стракатая **нов.**
129. Bunias orientalis L. fol. var. (Ad.) Doron.—Сьвярбігуз стракаты **нов.**
130. Galium mollugo L. fol. var. № 67 (Nikolski) Dor.—Пос. Маруна пярэстая (расьл. рэдкая)
131. Cypripedilum calcelolus L.—Чаравічкі (рэдкая расьліна).
132. Lunaria rediviva L.—Месячнік (рэдкая расьл.).
133. Geum urbanum L. (proles № 20) Doron.—Панікніца стракатая **нов.**
134. Alchemilla vulgaris L. (s. l.) fol. var. 1928. Doron.—Гусялапка стракатая.
135. Filipendula ulmaria (L) Maximowicz. var. 1928 Doron.—Вятроўнік вязалісьцевы **нов.**
136. Fragaria elatior Ehr (?) fol var. Doron.—Суніца высокая **нов.**

137. Salvia sylvestris (auct. fl. ros.) v. aurea Doron—Шалвея жоўталісьцёвая **нов.**

138. Carum carvi L. floribus roseis Doron.—Кмін ружовакветны **нов.**

139. Trifolium repens, L rubrum Doron.- v. tetraphylla atropurpurea Hort. Vilm., viridi marginata Adamov.—Дзяцеліна чырвоналісьцёвая (рэдкая).

140. Trifolium repens L. v. tetraphylla (Hugo de Vries, Amsterdam) Ph. de Vilm., erubescens Doron., глядзі: Die Mutation Theorie, Leipzig 1901-1904. t. I. pag 435-449. Letce-Wielki. 1928. — Дзяцеліна чатырохлісьцёвая (рэдкая).

141. Angelica silvestris, L. V. Adamovi, Doron. (purpurea Ad.).—Дзягіль лесавы чырвоны **нов.**

142. Thymus chamaedrys Fr. citriodorus, Ad.—Чабор цытрыновы **нов.**

143. Astrantia major L.—Астранцыя (рэдк.)

144. Brachypodium pinatum P. B. (silvaticum Huds. Roem.?)— Каротканожка.

Нумарацыя пераходзіць назад да перакрыжаваньня з бліжэйшай да дому дарогі, пераходзіць на левы бок і па ім ідзе да канца пабочнай дарожкі.

145. Aegopodium podagraria L. fol. var. № 158 Doron.—Снытка стракатая **нов.**

146. Alopecurus pratensis L. fol. var. № 110 1928 Doron.—Лісахвост стракаталісьцёвы **нов.**

147. Avena elatior L. fol. var. Adamov.—Аўсянік стракаты **нов.**

148. Artemisia vulgaris L. fol. var. № 92 1928 Dor.—Чарнобыль страк. **нов.**

149. „ vulgaris L. fol. var. proles № 17. Dor.—Чарнобыль страк. **нов.**

150. „ „ L. fol. var. Dor.—Чарнобыль страк. **нов.**

151. Brassica napus L. napifera № 207 peroit.—Бручка стракатая нов.

152. „ „ „ „ periit.—Бручка стракатая нов.

153. „ oleracea capitata, L. fol. var. № 180 Doron.— „ „ „

154. „ oleracea capitata, L. fol. var. № 170-а Doron.— „ „ „

155. Brunella vulgaris L. fol. var. Adamov I.—Брунэлька стракатая нов.



156. Brunella vulgaris L. fol. var № 4 Adamov II. — Брунэлька страк. нов.

157. Centaurea jacea L. fol. var. (Adamov) Doron.—Валошка луговая страк. нов.

158. Chaerophyllum aromaticum, L. № 8.—Цьмнец пах. страк. нов.

159. „ „ „ № 47. „ „ „

160. „ „ „ fol. var. proles № 22 Doron.—Цьмнец пах. стракат. нов.

161. Cochlearia armoracia, L. fol. var № 5 Doron—Хрэн страк. нов.

162. Dactylis glomerata L. fol. var. № 7 1925 г. Adamov.—Купкоўка страк. нов.

163. „ „ L. fol. var. proles: № 7 Doron — „ „ „

164. „ „ L. fol. var. Spica alba № 53.—Dor.— „ „ „

165. Saxifraga crassifolia L. hybr. Brillant. Hort.
166. „ ciliata Royle (?)
167. „ crassifolia L. hybr. nana Hort.
168. „ cordifolia, Haw. (?)
169. „ strachey, Hook.
170. „ crassifolia L. Pygmy, Hort.
171. „ cordifolia Haw. (alba) Hort.
172. „ crassifolia Mönch. hybr. Brillant
173. „ „ „ „ Coralie

(Номэнклятура №№ 165-173 ня зусім пэўная, яна атрымана ад Кесельринга, які ня меў магчымасьці праверыць, паказаныя назвы).

Баданы розныя

174. Dianthus hybridus, proles № 79 (hujusdem indicis)
175. „ „ „ „ „
176. „ „ „ „ „
177. „ „ „ „ „
178. „ „ „ „ „
179. „ „ „ „ „
180. „ „ „ „ „
181. „ „ „ „ „
182. „ „ „ „ „
183. „ „ „ „ „
184. „ „ „ „ „

Іскоры гібрыдрыя

Лічэньні градак і іх нумарацыя, пачынаюцца паўз дарожкі Ботанічнага саду ад галоўнага будынку Балотнае станцыі і працягваюцца ў глыб саду ў кірунку да камянёвых варот вялікае дарогі; па правым баку ідзе да канца насаджэньняў, потым пераходзіць на левы бок гэтай-жа садовай дарожкі і працягваецца ад канца насаджэньняў з левага яе боку. Пасьля гэтага нумарацыя пераходзіць на бакавую дарожку (адгаліненьне) і ідзе ад перакрыжаваньня справа да канца насаджэньняў, потым зноў пачынаючы ад перакрыжаваньня па леваму боку бакавое дарожкі.

## РАЗЬДЗЕЛ VI.

### VI. Балотныя заказьнікі і садова-паркавыя насаджэньні балотнае станцыі (балотна-мэліорацыйнага аддзелу выстаўкі).

Асабліва цікавы два заказьнікі, якія знаходзяцца на балоце:

1) лясны заказьнік, які складаецца з вузкае паласы, пакінутай з 1914 г. (час аснаваньня балотнай станцыі) у нечапаным выглядзе. Тут можна наглядаць як склад самае флёры, так і процэсы натуральнага аблясеньня. Цікавымі зьяўляецца вынайдаваньне тут чатырох новых разнавіднасьцяй бярозы, якія зараз больш падрабязна вывучаюцца. Некаторыя з іх знойдзены вылучэнцам, рабочым Менскае балотнае станцыі. Разнавіднасьці бярозы наступныя: а) альбініруючая форма звычайнае гузаватае бярозы; б) разрэзналіставая форма хмызьняковае бярозы; в) жоўталіставая форма гэтага-ж віду і г) пярэсталіставая.

Тры першыя разнавіднасьці ёсьць і зараз у заказьніку, чацьвертая, на вялікі жаль, згінула. Апісаньне гэтых новых разнавіднасьцяй можна знайсьці ў артыкуле проф. Адамава ў І-м сшытку „Прац ботанічнага габінэту балотнае станцыі“, які зараз друкуецца.

2) Другі заказьнік ахоплівае больш шырокую прастору, пакінутую ў натуральным выглядзе. Гэты вучастак часам мае характар пераходнага балота, якое зарастае лесам, а часам мае характар галавага лугавога балота, якое выкошваецца і мае значную цікавасьць для вывучэньня і нагляданьня. У ім сустракаюць такія віды як: Eriophorum alpinum, L, Tofieldia calyculata, Wahl., Triodia decumbens, P. B., Swertia perennis, L., Lafhyrus palustris L., Pedicularis sceptrum. L. і шмат іншых.

Лясны заказьнік у хмызьняку, непарушанасьць часткі якога была ўжо даўно пашкоджана мінуўшым пажарам, мяжуецца з пляцам, на якім летась быў разьбіты невялічкі ляндшафтава-дэкорацыйны дзікі сад у выглядзе вучастку-парку, зробленага ў спрошчаным натуральным ангельска-нямецкім стылі. Гэты дзікі сад адведзены для адпачынку рабочых і для вывучэньня прыёмаў дэкорацыйнага садоўніцтва ва ўмовах балотнае глебы і выпрабаваньня магчымасьцяй разьвядзеньня кветак на тарфянішчы.



Побач з ім закладзены невялічкі сад сквэр у мэтах практычнага прыстасаваньня расьліннасьці для разьвядзеньня клюбнага саду, які меў-бы назначэньне пашырыць на летні час жыльлёвую плошчу для рабочых балотнае станцыі для актыўнага і пасыўнага адпачынку іх. Гэты садок разьбіты ў рэгулярным, так званым францускім стылі і закладзены толькі ў леташнюю восень. Тут будуць вывучацца дэкорацыйныя расьліны ў іх ужываньні пры балотным разьвядзеньні кветак.

Такім чынам, рабочыя балотнай станцыі ў часе добрага надвор'я ў летні сэзон атрымліваюць магчымасьць правесьці свой адпачынак на чыстым паветры сярод здаровых абставін прыроды. Апроч таго, гэты садок даводзіць магчымасьць організацыі, як шляхам штучных насаджэньняў, так і шляхам скарыстаньня натуральнае флёры, практычна карыснага для шырокіх мас садочку.

Нельга ня ўспомніць аб невялічкім вадзяным басэйне, які зараз будуецца, з ровам да яго, дзе мяркуецца вывучэньне і навочнае дэмонстраваньне расьліннасьці, якая мае галоўнае значэньне пры процэсах зарастаньня вадаёмаў, а таксама і нарастаньня расьліннасьці на паверхні вады. Гэта невялічкае гідротэхнічнае збудаваньне знаходзіцца паблізу вэгетацыйнага павільёну з лізімэтрамі, які вызначаны для аграномічных досьледаў, зьвязаных з вывучэньнем балот.

Басэйн і роў з насыпам для разьмяшчэньня расьліннасьці ў залежнасьці ад той глыбіні ў вадаёмах і вышыні грунтовых вод, якую яны займаюць і да якой яны эколёгічна прыстасоўваюцца, знаходзяцца яшчэ ў пэрыодзе організацыі.

## РАЗЬДЗЕЛ VII.

### VII. Жывыя насаджэньні на галоўнай выставачнай тэрыторыі.

Для таго, хто цікавіцца флёрай і яе практычным і навуковым выкарыстаньнем наогул, можна тут кароценька сказаць аб усім, што варта зьвярнуць на сябе ўвагу на тэрыторыі выстаўкі, а іменна зьне тэрыторыі балотнае станцыі, на якой знаходзіцца толькі балотна-мэліорацыйны аддзел выстаўкі.

Уся тэрыторыя балотнае станцыі з яе штучнай і натуральнай расьліннасьцю нібы падобна да жывога гербарыю, які дае навочны і жывы об'ект для вывучэньня і нагляданьня флёры як у натуральных абставінах, так і для тых экспэрымэнтаў, якія робяцца ў ёй у прыкладных або карыстальна-вытворчых мэтах.

На галоўным вучастку тэрыторыі выстаўкі пераважна зьвяртае на сябе ўвагу наступнае:

а) Рознастайнасьць культуры Беларускае станцыі Ўсесаюзнага інстытуту расьлінагадоўлі (б. В. І. ПР. БОТ і Нов. культ.), які становіць сабою частку ўсесаюзнае акадэміі сельскагаспадарчых навук імя Леніна.

Станцыя вельмі добра паказвае рознастайныя і багатыя культуры па некалькіх аддзелах, як, напрыклад, рольніцтва і сэлекцыі, садоўніцтва, натуралізацыі і г. д.

б) Аддзел расьлінагадоўлі Беларускага навукова-дасьледчага інстытуту сельскае і лясное гаспадаркі імя Леніна мае тут, апроч вялікага вэгетацыйнага павільёну, занятага агрохэмічнымі досьледамі, у аддзеле інтродукцыі больш чым 200 карысных сельскагаспадарчых і тэхнічных відаў, прычым з іх шмат якія зьяўляюцца новымі ня толькі для БССР.

в) Зьвяртаюць на сабе ўвагу культуры лекавых расьлін, выгадаваныя Беларускай станцыяй лекавых расьлін, што знаходзіцца ў Магілеўскай акрузе, а таксама варты ўвагі і рознастайныя экспонаты жывых расьлін, якія вырошчваліся шмат якімі іншымі сельскагаспадарчымі і навукова-дасьледчымі ўстановамі БССР, дзяржаўнымі і калектывнымі арганізацыямі.



г) Апроч гэтага, цікавы, як дэкарацыйныя насаджэньні і кветнікі, у якіх растуць летнія кветкі, якімі часьцей за ўсё беларускае насельніцтва карыстаецца для аздабленьня сваіх палісаднікаў, як, напрыклад, юргініі (Dahlia), аксаміткі (Tagetes) і г. д.

Апошняе зроблена пад кіраўніцтвам катэдры расьлінагадоўлі Бел. С.-Г. Акадэміі, якая выставіла шмат іншых экспонатаў. Між імі цікавыя культуры тэхнічных кармовых расьлін для сілосу.

Для мастацкага трактаваньня і дэкарацыйнага афармленьня плошчы тэрыторыі выстаўкі за асновы ўзяты орнамэнты і колеры, якія галоўным чынам сустракаюцца ў беларускім народным мастацтве і дзеля гэтага ўведзена некаторая наўмыслая прымітыўнасьць, пазбаўленая ўсялякіх выкрутасаў.

Там-жа, паблізу галоўнай тэрыторыі выстаўкі, на асобным вучастку, у мясцовасьці, дзе організаваны будучы дэндролёгічны парк, побач якога знаходзяцца некаторыя іншыя сэктары БНДІ імя Леніна і новыя яшчэ няскончаныя будынкі Беларускае акадэміі навук, знаходзіцца тэрыторыя, вызначаная для цэнтральнага батанічнага саду. Там-жа—выставачны павільён ляснога аддзелу Беларускага інстытуту з цікавымі дрэўнымі гадавальнікамі і з вялікім дэндролёгічным гадавальнікам, які зьяўляецца асновай закладзенага дэндролёгічнага парку.

Масавыя культуры палявых расьлін—экспонаты аграномічнага характару—якія даюць цікавыя об'екты сельскагаспадарчага скарыстаньня расьлін і займаюць на тэрыторыі выстаўкі найбольшае месца, у даным выпадку выходзяць за тэму нашага разгляданьня.

---

## РАЗЬДЗЕЛ VIII.

### Дадатак.

Апрача вышэйпералічаных жывых насаджэньняў выстаўкі, якія даюць прыблізнае разуменьне па вывучэньні расьлінных багацьцяў для мэт практычнага скарыстаньня ў народнай гаспадарцы, у галоўным павільёне выстаўкі разьмешчаны экспонаты, якія характарызуюць становішча вывучэньня флёры БССР, а таксама і практычнае скарыстаньне расьліннай сыравіны.

Там ёсьць геоботанічная карта БССР, складзеная на падставе трохгадовых экспэдыцыйных досьледаў катэдры ботанікі Беларускай акадэміі навук (у 10 кілёмэтравым маштабе) і якая разам з глебавай картай БССР, выстаўленай у аддзеле глебазнаўства (галоўны павільён) дае мажлівасьць больш поўнага ўяўленьня вытворчых магчымасьцяй і якасьці глебы для сельскагаспадарчага скарыстаньня.

Таксама, там маецца флёрыстычная карта БССР, якая паказвае на падзел лясной расьліннасьці БССР на 5 галоўных раёнаў— пачынаючы ад лясоў усходня-эўропэйскага тыпу з вялікай колькасьці аркатычна-борэальных элемэнтаў (паўночны раён), да раёну з лясамі заходня-эўропэйскага тыпу, з паступовым зьнікненьнем арктычна-борэальных элемэнтаў (Палескі раён). На гэтай карце пададзены межы распаўсюджаньня некаторых расьлін (Arnica montana і інш.).

Такая-ж флёрыстычная карта выстаўлена на тэрыторыі выстаўкі ў выглядзе жывой карты-клумбы, зьяўляючыся адначасова дэкорацыйным элемэнтам выстаўкі. Паасобныя флёрыстычныя раёны на ёй высаджаны каўровымі расьлінамі (Sedum, Pyrethrum і інш.), а межы распаўсюджанасьці больш цікавых расьлін паказаны кампозыцыяй з мінэральных утварэньняў (шкло, камень, цэгла і г. д.). Акруговыя гарады БССР абазначаны на карце электрычнымі лямпачкамі.

Апрача гэтага, у аддзеле флёры галоўнага павільёну выстаўлена багатая сыстэматычная колекцыя насеньня і колекцыя пладоў (да 1500 відаў),



Гэрбарыум больш цікавых відаў, гэрбарыум зялёных і мхоў наглядны комплексны гэрбарый расьлінных згуртаваньняў нізіннага балота і верхавой імшары. Гэрбарый расьлін, цікавых для мэт практычнага скарыстаньня (вітрына-круцелка) і шэраг экспонатаў, якія характэрызуюць дзейнасьць Горы-Горацкага ботанічнага саду (Дыяграма разьвіцьця Г-Г. бот. саду, дыяграма сувязі яго з Бот. садамі ўсяго сьвету, плян Г-Г. бот. Саду).

Апрача таго, тут-жа побач, хэмічны інстытут Беларускай акадэміі навук выстаўляе экспонаты расьлінных фарбаў, здабытых з відаў пашыраных у БССР.

Для тых, якія цікавяцца флёрай, можна таксама параіць наведаць Вялікую і Малую Сьляпянку, якія зьяўляюцца часткай выстаўкі, у парках якіх знаходзяцца значная колькасьць цікавых экзотаў, а ў парку малой Сьляпянкі і куст Azalea pontica. якая мае некалькі меец пашырэньня ў БССР (на Мазыршчыне).

---

## ЗЬМЕСТ